Беларуская газэта

# НАША НІВА

Вільня №5, 1994

# Вы чытаеце нашу газэту ўжо чацьверты год





**АЛЯКСАНДАР УЛАСАЎ.** Рэдактар «Нашае Нівы» з 1906-га году. Самая калярытная постаць беларускага нацыянальнага руху. Развагі пра ягоны лёс дапаўняюцца публікацыяй лістоў пра яго, адрасаваных вядомымі дзеячамі палітыкі й культуры — ягонай жонцы.

**PROMENADE.** Напярэдадні трэцяе гадавіны адноўленае «НН» Рэдакцыя зрабіла вандроўку зь Вільні ў Давыд-Гарадок і назад, двума шляхамі перасякаючы ўсю Беларусь з поўначы на поўдзень. Падарожныя нататкі пра экспэдыцыю — у гэтым нумары газэты.

**ЭЖЭН ЁНЭСКО.** «Запавет» драматурга, які памёр у Парыжы 28 сакавіка гэтага году. Гутарка пра яго з Славамірам Мрожкам. Успамін пра пастаноўку «Лысай сьпявачкі» ў Менску адзінаццаць гадоў назад...

Апавяданьне

# РАЗЬВІТАЛЬНАЯ ПРАМОВА

Севярын Квяткоўскі

— Людзі нараджаюцца, каб жыць сваё ўласнае жыцьцё. Але гэта іхняя асабістая справа. Для нас яны — добрыя настаўнікі, нецікавыя сьпевакі, каханыя назаўжды (на хвіліну), дзівакі, танкісты, нонканфармісты, летуценьнікі малога дастатку, лепшыя сябры...

Кожны мае свой знак, кожны адпавядае чыймусьці стэрэатыпу, кожны мае сваё імя, якое з часам ператвараецца ў мянушку (калі дадатковае мянушкі няма).

А. быў А. «А» не зрабілася мянушкай. Бо яе ніхто не наважыўся даць А., хоць ён даволі доўга быў сярод нас. Значыць, аб'ектыўных прычынаў для гэтага ня ўзьнікла.

Чалавек нараджаецца, каб стаць першым прэзыдэнтам краіны, ці выдатным паляўнічым, ці бяздарным мастаком, ці бухгальтарам з плястылінавым характарам, ці выкладчыкам-«панкам», ці чалавекам-якому-ўвесь-час-не-шанцуе, альбо паліцыянтам-з-сумнымі-вачыма-які-штодня-паліць-сем-цыгарэтаў-й-які-выдатна-разблытвае-справы-а-вось-жонкі-ў-яго-няма...

Людзі нараджаюцца, каб зьдзяйсьняць учынкі.

Людзі *ствараюць* рэальнасьць вакол сябе.

То бок, *мы* ствараем НАШУ рэальнасьць.

А. быў народжаны для таго, каб 16.03.199X году ў 17.42 у адной зь менскіх кавярняў на яго зірнула дзяўчына N. А. быў народжаны для таго, каб у момант «17.42» зьбег ягоных думак, эмоцыяў, памкненьняў, фантазіяў і ўсяго іншага, што складае аб'ектыўны ірэальны сьвет кожнай асобы, быў такі, што калі N. зірнула выпадкова на А., яна ўбачыла ў ім штосьці, што цалкам зьмяніла ейны ўнутраны сьвет. Тое штосьці — хутчэй, успамін аб ім — N. пранесла праз усё сваё жыцьцё.

Да таго моманту А. належаў да НАШАЙ рэальнасьці ўскосна: ён быў з плоці. Але 16.03.199X у 17.42 А. спрычыніўся да НАШАЙ рэальнасьці, некалькі імгненьняў ён (няхай ненаўмысна й незаўважна для сябе) удзельнічаў у *стварэньні*.

І ўсё.

Менавіта таму я хачу гаварыць пра А.

Многія з вас ведаюць N. Я бачу, як некаторыя з вас скрывіліся ў надменнай усьмешцы. Маўляў, чаму гэта А. толькі праз N. і толькі на імгненьне спрычыніўся да НАШАЙ рэальнасьці? Вядома, колькі размоваў было вакол ягонага імя! Колькі розных плётак, кулюарных паўшэптаў! А. такі, А. гэткі, А. нас не паважае, А. сноб, А. нікчэмнасьць, А. дзівак, А. дурань, А. крыху ненармальны й г. д.

І гэта вы называеце ўзьдзеяньнем на НАШУ рэальнасьць?! І гэта вы называеце спрычыненьнем А. да НАШАЙ рэальнасьці?! Шаноўныя, на НАШУ рэальнасьць гэта не паўплывала аніякім чынам. Праз гэта яна не зьмянілася ані на каліва.

*Працяг на старонцы 4*



*Малюнак Дзяніса Раманюка*

# Дзёньнік прыватнага чалавека



* * *

Круглыя даты — заўсёды нагода падвесьці ня толькі вынік, але й рысу. Адноўленая тры гады таму «Наша Ніва» — ужо дастаткова сьпелы прадукт, каб зрабіць і першае і другое.

Выданьне, у якім самой Рэдакцыі адводзілася толькі форматворчая роля, сталася апрабацыяй колішняе ідэі ў нашым часе. Рэдакцыя рабіла адбор матэрыялу адно паводле нэўтральных крытэрыяў: прафэсіяналізм, наяўнасьць аўтарскае думкі й адпаведнасьць сучаснай эстэтыцы, звычайнаму цяперашняму жыцьцю. Усё астатняе рабілася само. У выніку мы атрымалі ідэю «НН» у тым выглядзе, у якім, з улікам усіх зьменаў у сьвеце, яна магла б існаваць сёньня. Адзінае, чаго нам так і не ўдалося пераадолець, — гэта анамальнасьць беларушчыны, якая за гады пасьля старой «НН» так моцна прывыкла йснаваць для самое сябе.

Магнэтызм вузкага кола ня даў нам зрабіць *газэту*. Іншыя прычыны (брак жывых людзей, сродкаў і г.д.) толькі дадаліся да гэтага. Ня хочучы імітаваць газэту як такую, як жанар, мы зрабілі з «НН» сэрыю творчых актаў, паставіўшы на асобу, а не на інфармацыю. Але мінула тры гады. І за гэты час усё, што магло адбыцца, — ужо адбылося. І наш, па сутнасьці, альманах ня можа быць адначасова рэжымным прадпрыемствам, якім мусіць быць газэта. Альбо «НН», як творчая сэрыя, перастае йснаваць, альбо, як газэта, становіцца такім рэжымным прадпрыемствам.

Апошняе цяжкавата ўявіць сабе ў беларускай сытуацыі, дзе яшчэ ніводнае выданьне, спэцыялізаванае на культуры, не пераадолела гэткую дылему і альбо спынялася, альбо ператваралася ў імітацыю расейскага журналізму, а ўсе пэрыёдыкі — выразьнікі беларушчыны — або прападалі, або заставаліся пакутліва йснаваць у завіслым стане «альманаху для вузкага кола».

Зразумела, што мы ня будзем далей пакутаваць у завіслым стане толькі дзеля нейкага намінальнага абавязку перад ідэяй аднoўленае «НН». Зразумела, што «НН» ня можа надалей быць такой, якой яна ўжо стала. Але зразумела й тое, што вырашаць лёс выданьня без уліку думкі нашых аўтараў і чытачоў Рэдакцыя таксама ня можа.

«НН» можа быць ператвораная ў жывы пэрыёдык толькі пры большай долі ўдзелу ў ёй публікі. Апошнім часам вялікую частку пошты мы страцілі з-за таго, што падавалі памылковы індэкс нашага менскага бюро. Цяпер, выпраўляючы гэтую памылку, мы пераканаемся, ці не была яна фатальнай.

Увогуле ў нас дастаткова падпішчыкаў і чытачоў, дастаткова прафэсіяналаў, каб забясьпечыць функцыянаваньне нармальнага пэрыёдыка. У нас ёсьць вялізная інфармацыйная ніша на Беларусі: на жаль, прадставіць многіх нетрадыцыйных (ці наадварот — традыцыйных па-за савецкай літаратурай) аўтараў не заўсёды бяруцца іншыя выданьні, а інфармацыю пра сьмерць Ёнэско ці новую кнігу Кундэры беларускі чытач усё яшчэ шукае ў маскоўскіх газэтах. Мы цудоўна ўсьведамляем сваю перавагу — тое, што Рэдакцыя працуе ў паветры тае традыцыі, там, дзе беларушчына ніколі не была савецкай. Урэшце на такіх падставах і можа быць створана сапраўдная беларуская газэта.

Мы не друкуем нейкія адмысловыя, цяжкія для ўспрыманьня чытача тэксты, мы ня ставім задачу выдрукаваць усё, чаго па-беларуску яшчэ не было. Мы імкнемся рабіць «НН» выданьнем для публікі й хочам разьлічваць на самы шырокі ўдзел публікі, на ўсё багацьце нармальнай грамадзкай думкі. Меншага ня трэба ні нам, ні вам. Мы не вышэйшыя і не ніжэйшыя за чытача. Мы ня хочам яго адукоўваць ці падладжвацца пад яго. Адзінае, што мы хочам і можам — гэта інфармаваць яго пра розныя думкі й погляды, пра тое, што робіцца ў культурным сьвеце, пра тое, пра што цікава даведацца нам самым.

Для аднoўленае «НН» такі падыход — гэта ўжо іншае аблічча. Пакуль мы пазнаёмілі толькі зь некаторымі аўтарамі, стылем нашае працы, базай, на якой можа быць створана дастаткова масавае беларускае пэрыядычнае выданьне. Але гэта ўсё ўжо ёсьць. І гэтага ўжо мала.

* * *

Зьезд Саюзу пісьменьнікаў у Менску зьдзівіў сваёй учарашнясьцю. Можна, вядома, у сярэдзіне 90-х заставацца пісьменьнікам 70-х. Іншы раз гэта нават нармальная зьява. Але тут — здавалася, што яны больш належаць 70-м, чымся самі тыя «сямідзясятнікі». Што за словы, што за норавы, што за праблемы!

Кажуць, Станіслаў Шушкевіч пры жыцьці зрабіў сабе надмагільны помнік, і той дзесяць гадоў стаяў у рабочым кабінэце. Сытуацыя зусім зразумелая для старога чалавека, выдатнага дзіцячага паэта. Але тут, падобна, у гэткую сытуацыю трапляе цэлы пісьменьніцкі цэх.

Шушкевіч расстаўляў канстанты ва ўласным жыцьці і, адштурхоўваючыся ад іх, ствараў вершы. А сёньняшнія літаратары, страціўшы апірышча ў жыцьці, як за канстанту, хапаюцца за творчасьць. Ня дзіва, што са старонак літаратурных выданьняў зусім зьніклі такія зьявы, як экспэрымэнт з формай, парадокс, пошук увогуле. Учарашняя літаратура — вось адзінае, за што можна яшчэ трымацца. «Важна ні на што не зьвяртаць увагі, а пісаць, пісаць, пісаць», — кажа адзін народны пісьменьнік. Пісаць, я так разумею, каб не звар'яцець ад страты звыклых арыенціраў. Алавік — як саломіна ў бурлівым моры. Але, на жаль, гэта толькі саломіна.

Пісьменьнікі, інжынэры душ, ахоўнікі маралі, розум нацыі, мусілі б асвойваць новую рэальнасьць, а не палохацца й ахайваць яе. Замест гэтага яны ратуюць уласны душэўны спакой у лунатычным сьне пра колішнюю грамадзкую ды эстэтычную стабільнасьць. Між тым, калі творчасьць (уяўленьне, фантазіі, фікцыі) становіцца апірышчам, то гэта ўжо ня творчасьць.

Нехта назваў гэты пісьменьніцкі зьезд «Восеньню патрыярха». І мусіць для дзясятка патрыярхаў беларускае літаратуры гэткае азначэньне трапнае. Гэта быў зьезд жывое гісторыі літаратуры. Але што там рабілі сотні астатніх?..

* * *

Вечарамі ў падвіленскіх лугох цяжка рыкае вялізная, чорная зь белым карова. Непадалёк ад яе бегае валачашчы цюцька. Ён то насьцярожваецца, падымаючы пярэднюю лапу й нагадваючы пра сваіх завадовых продкаў, то носіцца вакол, разьятраючы сябе. Але ня брэша.

Прагна жаданая, мроеная будучыня прыходзіць зусім не такая, якая мроілася, і ня так. Яе рамантычны вянок збуцьвеў і застаўся як бы збоку. Яна будзённая, абыклая й часта нуднаватая. Наша будучыня. Мабыць, каб рамантычны вянок захоўваўся, будучыня, незалежнасьць, дзяржаўнасьць павінныя здабывацца ахвярнымі звышнамаганьнямі, а не прыходзіць самі па сабе. Нават калі яны прыходзяць самі, павінна быць хоць бы трошкі ахвярнасьці, героікі. Зь іншага боку, калі Беларусь проста дасьпела да свае будучыні, тады дзяржаўная ідэалёгія павінна шукаць зусім іншыя эмацыйныя акцэнты, а збуцьвелы вянок ранейшых напрацовак, які каштоўны хіба тым, што такі, як у іншых, — пакінуць гісторыі.

Урэшце будучыня — гэта й ёсьць Беларусь. Гэта яна прыходзіць не такая, як уяўлялася. І як усё яшчэ ўяўляецца цяпер.

Кожнага разу, калі на падвіленскіх лугох увечары пачынае цяжка рыкаць самотная карова, мне здаецца, што яна кліча будучыню для Беларусі. У такія хвіліны мне карціць выйсьці на гаўбец і, узіраючыся кудысьці ў шарае неба, рыкаць ёй у адказ.



# ФРАГМЭНТЫ



### Эўропе не патрэбныя касмапаліты

Мы ня маем звычаю ставіць у адзін шэраг эўрапейскасьць і літоўскасьць, некаторыя нават лічаць, што гэта ўзаемавыключныя рэчы. Напэўна таму, што мы ня шмат цікавімся тым, як у Заходняй Эўропе разумеюць узаемную інтэграцыю, чаго ад яе чакаюць і чаго дасягаюць праз яе. Наш чалавек лягчэй зразумее гаспадарчыя, абарончыя матывы інтэграцыі. Але гэтаксама належала б усьвядоміць сабе, што сучасныя эўрапейцы ў імя гаспадарчага дабрабыту ня маюць намеру стаць безнацыянальнай, касмапалітычнай супольнасьцю. Эўропа, якой мы імкнемся дасягнуць, — гэта разнароднасьць нацый і культур, моваў і дыялектаў, традыцый і самасьвядомасьцяў, аб'яднаная хрысьціянскімі традыцыямі і, натуральна, геаграфіяй (хоць цяпер ужо не да Уралу). Разнастайнасьць культур, а не ўніфікацыя, уважаецца як вартасьць усёй Эўропы, падстава для эўрапейскае тоеснасьці, што ратуе яе ад моцнага ўплыву амэрыканізму.

Нацыянальнасьць, адзначаная роднай мовай і культурай, — непазьбежная, калі не падставовая частка эўрапейскасьці. Тыповым альбо добрым эўрапейцам можа быць толькі той, хто добры немец, добры вугорац, добры італіец у культурным і грамадзянскім сэнсе. Выдатна ўсьведамляюць гэта паўночныя нацыі, якія стварылі ўнікальную мадэль добрасуседзтва й супрацоўніцтва. Ідучы да інтэграцыі Эўропы, яны зусім не зьбіраюцца пакінуць на волю лёсу свой нацыянальны дух. У друку й тэлевізіі Даніі й Нарвэгіі ўвесь час разважаюць у розных аспэктах, на чым грунтуецца дацкая й нарвэская самасьвядомасьць, што іх чакае ў працэсе разьвіцьця інтэграцыі, як спалучаюцца эўрапейскасьць і нардычнасьць. На міжнароднай канфэрэнцыі фінскі палітык падкрэсьліў, што для фінаў эўрапеізацыя перш за ўсё азначае захаваньне й ахову фінскасьці.

Таксама й літоўцы, калі яны чаканыя ў Эўрапейскай Супольнасьці, то не як дэнацыяналізаваныя касмапаліты, а як нацыя з'інтэграванай ідэнтычнасьці. Сяброўства ў гэтай Супольнасьці й далейшая эўрапеізацыя павінны забясьпечыць дадатковыя ўмовы для разьвіцьця літоўскай тоеснасьці. З'інтэграваная нацыянальная ідэнтычнасьць (ня толькі ў этнічным сэнсе) у сучасным кантэксьце Эўропы разглядаецца таксама як важная ўмова стабільнасьці грамадзтва. Усялякія ўнутраныя напружаньні й нестабільнасьць характэрныя для нацый з разгайданай ідэнтычнасьцю (таксама, як і для людзей). У Заходняй Эўропе становіцца ўсё больш відавочна, што эміграцыя з Поўдня і Ўсходу, якая ўзмацняецца, касмапалітызацыя культуры выклікаюць эрозію нацыянальнай тоеснасьці — адзін з чыньнікаў дэстабілізацыі. Апроч таго, роля дзяржавы на шляху інтэграцыі будзе зьмяншацца, тыя ці іншыя яе функцыі трэба будзе перадаць эўрапейскім інстанцыям, пасьля чаго стабільнасьць краіны ўсё больш будзе залежная ад унутранага стану грамадзтва.

*Lietuvos Aidas, рэд. артыкул, 3 траўня.*

### Ці вяртаемся мы ў сярэднявечча?

Злачыннасьць расьце, вязьніцы перапоўненыя. Ці гэта непазьбежна? Чаму, хочучы быць лепшымі, багацейшымі, так шчыра імкнучыся да гэтага й ахвярна змагаючыся за незалежную Літву, мы робімся горшыя, усебакова ўбожшыя? Ці не балюча чуць, што «за расейцамі было лепей»? Мяркую, што гэта вынік ня толькі непрадуманых і спантанна прынятах законаў ды асобных рашэньняў ураду. Шмат значыць трактоўка права на ўласны капыл, некрытычнае выкарыстаньне досьведу іншых краін, якія ніколі не былі ў нашай сытуацыі. Падумайце, ці можа, скажам, вельмі мудры эскімос з Аляскі параіц жыхару джунгляў, як яму будаваць дом?

Мы шмат дыскутуем над мэтазгоднасьц сьмяротнага пакараньня, чуем парады розны міжнародных арганізацый, каб адмовіцца а гэткае жорсткасьці. Мы разумеем, што кар не павінна быць адплатай (справядлівай), шт не маем права пазбаўляць жыцьця, якое да Бог (сумлеўна) і г.д. Нашыя праўнікі ўся лякімі спосабамі ратуюць забойцаў-рэцыдывістаў, прызначаючы ім мяккія пакараньні Напрыклад, у Коўне да 15 гадоў пазбаўленьня волі засуджаны быў Рымгаўд Марчулайць,

# Галіна Дубянецкая

* * *

сьветабудова
сьветаруйнаваньне
між быльнягоў
заклятымі
завулкамі
маўчаньня
блукае
беспрытульная
любоў

* * *

вечным: струна — і смык
знакам: страла і лук
гэтак жагнаны лёт
гэтак хрышчоны гук

сэрца: крылаты ўздых
зорных крышталяў соль
там — адамкнуўся слых
там — скалыхнуўся боль

ты апантаны лёт
я твой сьпявучы гук
крэсіва — крэмень — кнот
на скрыжаваньні мук

РАСКОША

ёсьць раскоша згадаць недарэчы
пра шамрок ды аер
ёсьць у вулках раскоша сустрэчы
незнарок у чацьвер
і прамень заблуканага сонца
у пражылках дажджу
і няўзнак прашаптанае слоўца
што закружыць душу

ёсьць раскоша сьцяжынаю крочыць
наўздагад — напавер
ёсьць усё што бывае аднойчы
толькі тут і цяпер

* * *

ці далёка ці глыбока ці блізка
праплывае ў пераменлівых бліскаў
ціхі горад апавіты зарою
дзе жывуць зачараваныя мроі

з па-над водаў з па-над ясных
крыніцаў
далятаюць паразовы званіцаў
і пад сьнегам узыходзяць пралескі —
пра жыцьцё тамтэйшае весткі

можа ў сьне а можа ў яве аднойчы
ты адплюшчыш задзіўлёныя вочы
і падыйдзеш да вакна на сьвітаньні
і званіцы залатыя застанеш

* * *

узыходзіла сонца ў вазёрнай смузе
а ўжо высьпелы дзень
дагарае салодка
нас — ад стомы бязважкіх —
кудысьці вязе
нас дадому вязе
паслухмяная лодка

# Сяргей Шыдлоўскі

ВЕСНАВОЕ

Люблю паліць вясной зімова-восеньскі плён — папяровыя сумёты сьцюдзёнага шматслоўя й слотных думак. Люблю ўвесну забываць старыя абяцаньні й амбіцыі... А таксама ўлюбёныя кнігі. Сябры цікавяцца, дзе мая бібліятэка, чаму ў мяне мала кніжак... Як ім растлумачыць, што свае кнігі я пакідаю зіме — сумётам ды занядбалым сьнежным паркам... Часьцяком пасьля чалавека не застаецца анічога ад яго чыну, ад яго пачуцьцяў, але захоўваецца бібліятэка — як летапіс яго другога прывіднага жыцьця — жыцьця сярод кніжнага чыну й кніжных пачуцьцяў. Я хацеў бы, каб перад наступнікамі мяне характарызаваў чын, а не мара. Наступнікі ж хай самі шукаюць і знаходзяць свае ўлюбёныя кнігі, а потым губляюць — абавязкова — пакідаюць іх сумётам ды занядбалым сьнежным паркам, каб сябе ўжо цалкам аддаць вясьне.

Што тычыцца архіву, то я зьнішчаю яго ў самым зародку — гэта мой прынцып... Ды яшчэ й невядома, калі атрымліваеш сапраўднае задавальненьне, — тады, калі пішаш, ці тады, калі зьнішчаеш напісанае.

Навошта пакідаць па сабе нататнікі, лісты ды чарнавікі — папяровае сьмецьцё, сьведчаньне неадваротнасьці часу. Навошта павялічваць гармідар у Сусьвеце — бясконцым і вечным. Рукапісы — гараць! Полымя — што тая кропка. Скончыў — пастаў кропку. Агонь — вось лепшы вартавы перад вечнасьцю. Полымя — што тая кропка... Не люблю сунуць па чужой каляіне, але й сваю рабіць — ахвоты ня маю. Ад зімы — да вясны, увесну, — каб сьляды хаваліся ў веснавым буяньні дзьмухаўцоў...

* * *

Манія пісаць — тое самае, што й манія сьмеціць. Мне добра пішацца восеньню... Калі дрэвы скідаюць сваю лістоту долу, — я бруджу словамі. Іх заўжды трэба правяраць вясною — жывыя яны або збуцьвелі.

Зімою добра чытаецца, але нават зімою карціць учыніць вогненнае аўтадафэ беларускай літаратуры. Аднак мяркую, што беларускія кніжкі, набрынялыя вільгацьцю ад гаротнага тутэйшага румзаньня, будуць кепска гарэць. Гэта й стрымлівае.

Вясной, калі сьнег сыходзіць, і на асноведзі жывое мурожнае зяляніны зімовы бруд робіцца яшчэ больш агідным — ад беларускіх тэкстаў зусім ужо невыносна патыхае цьвільлю. Чамусьці, больш — ад паэзіі й адраджэнскай ідэйнай літаратуры.

Ці апраўдвае іх тое, што яны ствараліся ў зімовы пэрыяд беларускай гісторыі? Нашыя ж продкі ўмелі жыць чаканьнем вясны, а зіму яны палілі на калядных ды купальскіх вогнішчах. Беларушчыне застаецца толькі аднавіць іх волю да вясны ды не палохацца шуганьня чыстага полымя.



*Здымак Алены Адамчык*

# РАЗЬВІТАЛЬНАЯ ПРАМОВА

*Працяг са старонкі 1*

Таямніца ego А. — невытлумачальная зьява ў кожным з нашых жыцьцяў. Яна засталася адзіным, што цікавіць мяне ў рэальнасьці як такой. А. больш няма. А. — таямніца, якая сыйшла з жыцьця назаўжды. Але я разьвітваюся з А. без разгубленасьці. Я ведаю, што 16.03.199X у 17.42 у адной зь менскіх кавярняў была дзяўчына N., якая ўбачыла ў А. *штосьці*, што яна *зразумела*. Я не самотны на гэтай паніхідзе, я з радасьцю ўздымаю кубак за тое «штосьці», што раскрылася адзінаму чалавеку на Зямлі!

J. (так звалі прамоўцу) не міргаў, пазіраючы ў адну кропку. Ягоная постаць выразна глядзелася на фоне сьветлага муру, які агароджваў стары парк. Большую частку дня J. праводзіў у гэтым парку. Цяпер тут было вельмі прыгожа: золата й чырвань запаўнялі прастору між дрэваў. Была залатая восень. Але J. не заўважаў навакольнага хараства. Не заўважыў J. і постацяў, якія ўзьніклі па той бок муру. Гэта былі А., В., С. і іншыя сябры J. Яны паклікалі яго, але безвынікова. Вось ужо колькі часу, як J. ня вымавіў ні слова і перастаў заўважаць людзей.

— Зірніце навокал, шаноўныя! Сіняе яснае неба, на якім блішчыць сонца! І сьнег, сьнег! Неабсяжная далеч сьнегу пад сонцам у чыстым небе! Вы думаеце, гэта таксама НАША рэальнасьць? Ну, а як жа! Мы ж знаходзімся пасяродку гэтага безьбярэжжа!

Не, шаноўныя! НАША рэальнасьць сканчаецца праз два крокі ад нашых целаў. А далей... Далей нязьведанае. Кіньцеся туды! Паспрабуйце зірнуць на сябе з-за тае мяжы. Кіньцеся! І бяжыце, бяжыце, пакуль хопіць сілаў, пакуль не ўпадзеце. Бяжыце кожны паасобку, і ўпадзіце там, і ляжыце ў адзіноце. Там... Там, дзе няма нікога, акрамя цябе на сьнезе пад яркім сонцам у чыстым небе. І тады вы зразумееце, што няма яе, няма НАШАЙ рэальнасьці, ёсьць толькі ты, а ў цябе ёсьць «штосьці». А пасьля вы вернецеся й зірнеце адзін на аднога. І кожны ў кожным убачыць «штосьці». Такой яна будзе — наша рэальнасьць у той момант...

Ну! Бяжыце! Прашу вас. Бо, калі вы вернецеся, вы забудзецеся на знакі й мянушкі. Вы будзеце згадваць А. момант за момантам ягонага жыцьця, якое прайшло перад вамі, вы будзеце нізаць тыя моманты-пацеркі на ніту-памяць, і тады, магчыма, вам адкрыецца таямніца ego А.

Магчыма й не. Але варта спрабаваць. Гэта трэба не А., гэта трэба вам!

Ужо доўгі час А. зь сябрамі пазіралі на J., які нерухома ўтаропіўся ў адну кропку. Смутак, жаль і шкадаваньне апаноўвалі іхнія сэрцы. Яны ня ведалі таго, што ведаем мы з вамі: J. быў не самотны.

Магчыма, ён быў самы шчасьлівы чалавек на Зямлі.

# «ЗА ФІРАНКАМІ»

Ігар Бабкоў

*з цыклу «Дзёньнікі спадара Дэкарта»*

— Undoubtedly but that it show, Shaun replied, the mutter-milk of his blood donor beginning to work, and while innocent of disseminating the foul emanation, it would be a fall day I could not, sole, so you can keep your space and by the power of blurry words I am lo...

Чытаць далей ня мела сэнсу. Ён паспрабаваў прасачыць ланцужок словаў, наперад, радок за радком, намагаючыся адначасова ўцяміць, ухапіць, зразумець, прыдумаць (?) хаця б які сэнс. Сказ быў зьдзекліва-доўгі, кропка знайшлася адно на сярэдзіне старонкі.

У роспачы, незразумелай яму самому, ён паклаў кнігу на стол, забыўшыся паглядзець нумар... Ён знайшоў сябе ў невялічкім, тыпова-студэнцкім пакоі. Ложак, дзьве шафы, лямпа, пісьмовы стол. Да сьцяны была прымацаваная вялікая дошка, на якой практыкаваліся ва ўлюбёнай гульні лёнданскіх пабаў — кіданьне дроцікаў. На стале ляжалі шэсьць кнігаў. Яны былі падабраныя досыць дзіўна: тры Дэрыда, адзін Эко, адзін Кундэра, адзін Ейтс.

Ён быў д-рам Стэфанам Д., ён ведаў гэта дакладна, знаходзячы сваё прозьвішча ў крэдытнай картцы, банкавых сумаваньнях, чэкавай кніжцы, а таксама ў разнастайных мэмарандумах, што прыходзілі да яго з рэгулярнасьцю прыродных цыклаў: зарэгістравацца ў лекара, аплаціць пражываньне, прыйсьці на вечарыну, памерці (?).

Ягонае прозьвішча глядзела на яго таксама й са сьціпла выдадзенай манаграфіі, — у маёй роднай мове — як ён часам тлумачыў.

Пагартаўшы кніжку (каторы раз?), ён паклаў яе на месца.

Потым павольна падняўся й падыйшоў да вакна. Сёмы аўтобус, амаль што пусты, ехаў да Пікадылі. Можна было б пагуляць. Але, іншым разам.

Ён падыйшоў да дошкі й акуратна занатаваў на ёй чырвоным флямастарам: СКОНЧЫМ САМОТАЙ.

.............

Усё складвалася няблага. Ён прыляцеў у Хітроў увечары, яго сустрэлі й завезьлі на кватэру. Трымэстар пачынаўся толькі праз тыдзень, і ён меў часу паблукаць па горадзе, які ня бачыў дзесяць гадоў, а таксама крыху адаптавацца да ірляндзка-ангельскае вымовы факультэцкае сакратаркі. Гэта было неабходна, бо інакш бы ён увесь год блытаў гадзіны й аўдыторыі. Ягоны кантракт з факультэтам і быў разьлічаны на год, а потым аўтаматычна працягваўся, калі не паўставала пярэчаньняў аднаго з бакоў.

Ён перагледзеў свае канспэкты. Асабліва не хваляваўся, бо чытаў гэты курс ужо пяць гадоў на сваім факультэце ў Менску. Трэба было толькі сачыць за мовай ды стрымваць па-магчымасьці паэтычныя адхіленьні, якімі ён ТАМ карыстаўся бліскуча. «Усходняя Эўропа: гісторыя й мэтафізыка рэгіёну». Ён падрыхтаваў шмат сюрпрызаў.

................

Заняткі пачаліся неяк незаўважна й гэтак жа незаўважна ён уцягваўся ў рытм новага жыцьця.

«Канец гісторыі, канец жыцьця, блуканьні па прасторы, лад якой ад цябе ўтоены, — ён занатаваў гэта чырвоным флямастарам. І потым яшчэ, — Утопіі не паміраюць, яны пражываюцца й застаюцца ў памяці, адкуль сьвецяць нам назаўсёды. Ці адбываецца што-небудзь?»

................

Усё пачалося зь нейкае прыкрае няўтульнасьці. Ён раптам зразумеў, што яму няма дзе застацца на самоце. Горад быў нібы вялікі пакой, добра мэбляваны, прадуманы, густоўны, някідкі. Але без свайго месца. Яму анічога тут не належала, акрамя ўспамінаў ды мрояў. Ён раптам адчуў сябе Сартраўскай пусткай, дзіркай сярод існага. Ён паступова прызвычаіўся сядзець у пабе, не размаўляць з калегамі пра істотныя рэчы, увогуле не размаўляць.

Адзінаю прыемнасьцю былі рэдкія сустрэчы з Крысам, выкладчыкам славянскіх моваў, ірляндцам. Крыс меў пачуцьцё мэтафізыкі й павагу да паэзіі — якасьці дастаткова рэдкія на гэтай выспе.

......................

«Свабода ня ёсьць чыстаю адсутнасьцю Ўлады, — запісаў ён на дошцы. — Яна ёсьць прадуктам пэўнага тыпу Ўлады, яна ёсьць чыстаю адрознасьцю».

........................

Вяртаючыся сёмым аўтобусам, праз Оксфардстрыт, ён раптам прыгадаў гульню, у якую гуляў падчас доўгіх начных вартаваньняў, пасьля ўнівэрсытэту. Ён называў яе «за фіранкамі».

Тады ён практыкаваў яе як мэдытацыю, альбо як выратаваньне. Ён ведаў, што ўсё безнадзейна, што прыйдзецца памерці на Радзіме, у клетцы. І ён гадзінамі ўяўляў, як ён блукае па Парыжы (Мадрыдзе, Лёндане, Рыме...), насяляў гэтыя прасторы сябрамі, падзеямі, тэкстамі. Каханьнем. Ён займаўся гэтым як высокім рытуалам. Урэшце ён мог усю ноч трызьніць «істотнаю размоваю» дзе-небудзь у невялічкай кавярні на ўскраіне Мадрыду.

Потым быў арышт, вызваленьне, потым была незалежнасьць, якую ён дасюль успрымаў як цуд. Потым былі абыякавасьць і снабізм з Захаду й нянавісьць з Усходу. Урэшце ён стаміўся жыць у атмасфэры ўсеагульнае няпэўнасьці, калі невядома — заваюють цябе заўтра, альбо дзесяць гадоў пачакаюць.

...............

Сэнсы нараджаліся й паміралі, усе ўтопіі былі пражытыя й цьмяна сьвяцілі з памяці.

..................

Ён вяртаўся сёмым аўтобусам і незаўважна адчуў сябе «за фіранкамі». Уяўленьне аўтаматычна перанесла яго ў невялічкі горад, якім ён аніколі дасюль ня мроіў. Ён павольна йшоў па галоўнай (ён чамусьці ведаў гэта) вуліцы, што, здаецца, заснула ў сваім забытым і нікому не патрэбным клясыцызме. Ён павольна йшоў па невялічкай вуліцы й чамусьці ведаў, што за тым рогам — кавярня, а за гэтым — маленькая кандытэрыя. Усё так і было, і ў далейшым ён ужо не зьвяртаў увагі на горад, удыхваў яго даверліва й глыбока, як паветра, зь ягонымі паркам і рэчкай, са зграбнымі й ціхімі вулкамі.

Гэта быў горад, у якім ён нарадзіўся. Ён раптоўна адчуў сябе Мідасам — усё, да чаго ён дакранаўся, на доўгія гады ператваралася ў міт, у словы, у павуціньне сэнсаў. Адно гэты горад неяк утрымаўся, ня трапіў у ягоны каталёгі, так і застаўся на самоце, у патаемным схроне, безь ніякага сэнсу. Не схацеў быць мітам. Ён адчуў неадольную агіду да словаў. Сярод усяго толькі гэты горад сьвяціў маўклівым спадзевам.

..................

«Сартр меў рацыю, — запісаў ён сінім флямастарам, — мы ніколі ня ёсьць тымі, кім мы ёсьць, і заўсёды ёсьць тымі, кім мы ня ёсьць. Мы нават ня ведаем, ці сапраўды мы йснуем.»

...............

Каля тэлевізара ў холе было зашмат людзей. Ён асьцярожна падыйшоў, прытуліўся да сьцяны. Ішоў незапланаваны выпуск СіЭнЭн, праз сьпіны на экране была бачная чародка панцырных машын, што з характэрнымі гукамі ехала па вулках апусьцелага горада.

Пяты танкавы корпус расейскае арміі ўваходзіў у Менск. Пачынаўся чацьверты падзел Усходняе Эўропы.

..................

Яму асьцярожна спачувалі. Ён цяпер вёў яшчэ сэмінар для выкладчыкаў, дзе, як мог, камэнтаваў ходу падзеяў і далейшыя пэрспэктывы. «Гэта анічога не вырашае» — паўтарыў ён словы аднаго менскага сябра. Прафэсары ў адказ усьміхаліся загадкавымі ўсьмешкамі, сэнс якіх ён не хацеў разумець.

..................

«Усё сапраўднае адбываецца недзе там, за фіранкамі», — запісаў ён.

Крыс паведаміў, што на наступны год наўрад ці можна будзе працягнуць кантракт: ніхто не зацікаўлены ў тым, каб фінансаваць прывіды, альбо сны,— такія доўгія сны аб існаваньні.

.................

Дзень таяў, быццам недарэчны восеньскі сьнег за вокнамі, асьцярожна прасядаў у сутоньне, стомлены, сьмяротна хворы. Разам зь ім цьмянелі фарбы, згасалі ліхтары. Горад цкавала ноч... Пакойчык. Так, пакойчык. Заўсёды знаходзіш сябе тут, — і заўсёды знаходзіў. Ня памятаеш, калі гэта пачалося — гэты прастакутнік падлогі, сьцены, столь, шпалеры. Хочацца сказаць: гэтак было заўсёды. Так, і лямпа пад стольлю — заўсёды. І фіранкі.

Калі ўважліва глядзець на іхнія зморшчынкі, на ледзь бачнае пагойдваньне, на тое, як зьмяняецца ўзор на бачынках,— можна забыцца на ўсё.

Але, яны разыходзяцца і — апошні тэатар — адбываецца — там, «за фіранкамі».

....................

Ён вяртаўся праз Парыж, Вену й Менск, праз гады й падзеі, праз расейскія танкі й праскія кавярні, праз Варшаўскіх інтэлектуалаў і крывыя Віленскія вулкі. Ён вяртаўся ў маўклівы горад, які не захацеў стаць мітам, у горад, дзе маленства дарэшты зблыталася з каштанамі, а немудрагелісты малюнак вулак, здавалася, існаваў адвеку,— ці то іхні ўзрост быў старэйшы за яго, ці то праўда Плятона й спрадвечныя эйдасы забрылі ў вобразы ягонага дзяцінства.

Ён вяртаўся, ён бег, нязграбна, сьмешна, безнадзейна, і расейскі вартавы гелікоптар кружляў над ім, робячы далёкія колы, хаваўся й вяртаўся зноў, каб працягнуць прыемнасьць, каб забіць яго не адразу, а ён усё бег, утаймоўваючы сэрца, у нікуды, чымсьці падобны да Дыяніса, а можа й сам Дыяніс, памерлы і ўваскрослы бог, на тлустай чорнай ральлі Ўсходняй Эўропы.

*Менск, 1994 г.*

## КРОНІКА ДОЎГАЕ СЬМЕРЦІ

**Сакрат Яновіч. Доўгая сьмерць Крынак. — Беласток—Бельск, 1993.**

Кніга Сакрата Яновіча, выдадзеная ў Беластоку фірмай «Амега», прэтэндуе на падсумаваньні. Але гэта ня ёсьць нашай задачай. Мы імкнемся толькі да вытлумачэньня — аднаго з шматлікіх.

У 1984 годзе ў прадмове да Лёнданскага зборніка мініятураў («Miniatures») Shirin Akiner закінула Яновічу плыткасьць ды штучнасьць ягоных раманаў (тады яшчэ ня бачаных па-беларуску) — супрацьставіўшы ім ягоныя празаічныя мініятуры. Развагі йшлі пра валоданьне формай (раману) й аўтарскую прыхільнасьць да паэтычнае прозы. Паклаўшы прозу Яновіча паміж гэтымі палюсамі, Shirin Akiner выбудавала сэрыю апазыцыяў: кароткая форма/мініятура/паэзія/вёска — вялікая форма/раман/проза/горад.

«Доўгая сьмерць Крынак» дадала да гэтых апазыцыяў наступную й напэўна найбольш істотную: жыцьцё — сьмерць. Проза Сакрата Яновіча знаходзіць сябе на гэтай восі; яна жыве, квітнее сярод вясковых краявідаў, набываючы паэтычнасьць, ляканічнасьць, скончанасьць — але, ня ў змозе затрымацца ў гэтай штучнай натуральнасьці, адыходзіць у выгнаньне, у горад, у доўгую сьмерць...

Проза Сакрата Яновіча ёсьць кронікай гэтага адыходу, кронікай павольнае сьмерці. «Сьцяна» — раман, крыху падкарочаны рэдактарам, — патыхае спакоем ды безнадзейнасьцю могілак, тут няма аўтара, няма герояў (толькі прывіды), няма падзеяў. Затое мініятуры бліскаць падзеямі, сюжэтамі, героямі — часам здаецца, што занадта...

Аўтар ведае, што сьмерць прыйдзе. Напэўна, адсюль гэты мізантрапічны тон, такі неўласьцівы для беларускай вясковай прозы. Сярод герояў Яновіча не знаходзіцца аніводнага больш-менш прыемнага тыпу, зь якім ня страшна было б сутыкнуцца ў цёмным завулку. Напэўна таксама адсюль гэтыя бясконцыя рахункі — з панамі, панямі й падпанкамі; гэтыя няўцямныя крыўды, разам з комплексам вышэйшасьці ў дачыненьні да (пост)савецкай Беларусі.

Яновіч — анты-Гарэцкі беларускае вясковае прозы. Калі ў герояў Гарэцкага было як мінімум дзьве душы (а калі пашукаць, дык і болей), — для герояў Яновіча душа — панская раскоша. Яна ёсьць праўда, але ня існасьць.

Стывэн Д.

## ПРА «НАРОДНАСЬЦЬ»

А куды, вы думаеце, падзеўся ўчарашні першы эстэтычны крытэрый — «народнасьць»? У што ператварыўся? На каго сёньня разьлічвае, да каго зьвяртаецца ўчарашні наш *народны* пісьменьнік ці паэт? І хто адгукаецца яму на ягоны кліч, зьвернуты «да народу»?

На тое, што засталося ад савецкай народнасьці, можа адгукацца толькі тое, што засталося ад савецкага народу — г. зн. сацыяльны аўтсайдэр: дэклясаваны элемэнт, плебс.

Старыя людзі зазвычай — мудрыя. Яны робяць нясьпешныя, узважаныя высновы. Такі стэрэатып. Племя зьбіраецца да важака, той думае цэлую ноч і раніцай кажа — пойдзем на захад альбо на ўсход. І ўсе ідуць. Старыя людзі пазьбягаюць радыкалізму. Асабліва калі яны мысьляць сябе павадырамі нацыі. Яны — ахоўнікі традыцыйнага ладу, гатовыя выслухаць усе «бакі». За такі вось імідж мудрага аксакала — пэўны міжнародны стандарт — трымаюцца й беларускія павадыры нацыі, *народныя* паэты й пісьменьнікі. У гэткім іміджы яны шукаюць апраўданьня свайго месца ў грамадзтве. Між тым, апраўданьне залежыць ад таго, як міжнародны стандарт спалучаецца са спэцыфікай нацыянальнае сытуацыі й часу. Іншы раз хоць наш аксакал і трымаецца за той імідж, які мусіць яго апраўдваць, але моманту апраўданьня не ўзьнікае. Напрыклад, так адбылося з паэмай «Ачмурэньне», якую два гады таму выдрукавала газэта «Зьвязда».

Аўтар — Баркулаб Дамавік-Крывіцкі — народны, зь якога боку ні паглядзі. І як чалавек з народу, які ў народзе свой і — за народ, і як настаўнік народу (што выдае мэнтарска-даверальны тон), і як чалавек са званьнем «народнага» (у «абы каго» такую паэмішчу цэнтральная газэта не ўзяла б). Але — да тэксту.

Шукаючы хоць якога пазыцыйнага балянсу паміж партакратамі й дэмакратамі, рынкам і разьмеркавальнай сыстэмай, Саюзам і суверэнітэтамі, аўтар гэткага балянсу не знаходзіць. Сатырычная паэма ператвараецца ў пустое насьміханьне з усяго, што зьмянілася ў жыцьці за апошнія пяць гадоў, у хіхіканьне. Між тым, дзеля чаго аксакалу ўзважанасьць, якая й робіць яго аксакалам? Мусіць, дзеля таго, каб даваць прыймальныя для большасьці народу канструктыўныя высновы. Тут жа апроч пары гола-пафасных фразаў пра мову, культуру (?) і асьвету, на якія не даюць грошай, — нічога пазытыўнага няма. Адно «ачмурэньне». Павадыр так і ня кажа: на захад пойдзем ці на ўсход? Ён выходзіць да супляменьнікаў і кажа: «Што? Зьелі?!»...

«Народнасьць» у такіх вершах выяўляецца адным мярылам, адным рэфрэнам пасьля кожнага сюжэту пра палітычныя зьмены, партыі й дзеячоў: ці будзе ад гэтага нам кілбаса, ці ня будзе? Напрыклад, фермы замест калгасаў — дадуць нам есьці або не дадуць? Між тым, ферма стварaецца селянінам як цэлы жыцьцёвы ўклад і толькі для пралетара яна — машына па вырабу мяса. Ці, скажам, замежныя інвэстыцыі — абсалютная патрэба сучаснае эканомікі, тым больш крызыснай. І сказаць тут «мы самі з вусамі» можа зноў жа хіба люмпэн, які чакае, хто й калі накорміць.

Пасьміхаючыся з «чарнабародых дэмакратаў», аўтар вымяшчае тут усю сваю юдафобію. Дамавік працягвае колішнюю «палеміку» з Букчыным. І гэтая, як быццам зусім асабістая закамплексаванасьць аўтара, таксама разьлічаная на люмпэна-чытача. Бі жыдоў, спасай... у гэтым выпадку — славянства!

А сацрэалістычнае ўсхваленьне мазалёў і поту, быццам усё гэта — першыя адзнакі чалавечае працы й плёну? Мазоль — сымбаль працы толькі для жабрака, які або ня можа, або ня хоча працаваць. Ня ведаю ніводнага вясковага гаспадара, нармальнага селяніна, які б выстаўляў напаказ свае мазалі й ганарова сьмярдзеў сваім потам. Наадварот, калі ён шануе сваю працу й сябе самога — ён імкнецца выглядаць прынамсі ня горш за вас. І толькі п'яніца, лайдак выстаўляе гэта як вартасьці. Традыцыйна арыентаваная на камбедаўцаў беларуская савецкая паэзія адшукала ў фальклёры трапны сынонім для слова «праца» — мазоль, але неяк упарта прамінула ня менш трапнае й ня менш распаўсюджанае азначэньне: гультай за дзела — мазоль за цела.

Баркулаб не заўважае ў новай рэчаіснасьці нічога, што магло б у новай сытуацыі стаць апірышчам грамадзкага ладу й маралі. Ён «не чапае» хіба камуністаў (бо сам быў камуніст) і савецкую рэчаіснасьць (бо вылучыўся пры ёй). Усё, што было пасьля — вартае адно насьмешкі. Урэшце аказваецца, што адзіным станоўчым героем паэмы ёсьць — бомж, які выведзены тут як «наш чалавек». Гэта — традыцыйны ў расейскім фальклёры Іванушка-дурачок, які прывандраваў на Беларусь параўнаўча нядаўна, як і ўся традыцыя пралетарскага фальклёру.

На маю думку, гэткія газэтныя прапагандысцкія «народныя» прыпеўкі мусяць адыграваць зусім дэструктыўную ролю, бо ніяк не спрыяюць фармаваньню псыхалёгіі сярэдняе клясы, гаспадара, творцы, а значыць і патрыёта.

С.Д.

## КРЫТЫЧНЫ РАЗБОР

Энцыкляпэдыя «Археалёгія й нумізматыка Беларусі» (АіНБ) і першы том «Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі» (ЭГБ) *a priori* не абяцаюць нечага нечаканага ці невядомага. Рэч у тым, што даведнікі ў энцыкляпэдычным выдавецтве рыхтуюцца адзін за адным, «ідуць адным блёкам», і калектыў аўтараў, супрацоўнікаў ды кансультантаў ад выданьня да выданьня зьмяняецца няшмат. Важнае тое, што пры гэтым складаецца й замацоўваецца *традыцыя*.

Скажам адразу, што пакуль, паводле АіНБ і першага тому ЭГБ яшчэ нельга скласьці ўражаньне пра стан гістарычнай навукі на Беларусі. Паколькі ж праца над наступнымі тамамі ЭГБ працягваецца, то крытычны разбор, як нам здаецца, дапаможа палепшыць некаторыя прынцыпы рэдагаваньня, падрыхтоўку зьместу й падыходы да мастацкага афармленьня.

Першае ўражаньне ад афармленьня ЭГБ: новай энцыкляпэдыі пасуе строгі чорны з залатым пераплёт з падобнаю да іерогліфа абрэвіятурай на карэньчыку. Але, адгарнуўшы вокладку, чытач сустракаецца раптам зь мітульгою малюнкаў на форзацы — з выявамі розных гербаў, храмаў, абразоў, вежаў... — быццам мастак сьпяшаецца паказаць нешта зь беларускіх старажытнасьцяў, пра якія будуць спэцыяльныя артыкулы зь лепшымі ці горшымі ілюстрацыямі. Ці варта мітусіцца?

Прозьвішча мастака напісанае тамсама, дзе й сьпіс навуковых кансультантаў — Э.Э.Жакевіч. Энцыкляпэдыя не дае магчымасьці даведацца нават, мужчына гэта ці жанчына. Можа, варта было б і мастака, і кансультантаў ды іншых згаданых асобаў назваць «пайменна»?

Аднак жа вернемся да афармленьня. Яно прадстаўляецца недастаткова прадуманым. Кожная літара пачынаецца ў блёку з аўтарскай гравюрай паводле прынцыпу азбукі («А» — арган, «Б» — батлейка). Гэта змусіла мастака пераносіць на другую старонку (часам на адваротную) датычны літары ілюстрацыйна-палеаграфічны блёк. Можа б зусім не даваць гэтае бязадраснае палеаграфіі (дарэчы, ня лепшай), а паказаць усё ў добрых зводных табліцах пры артыкуле «палеаграфія»? Альбо — зусім адмовіцца ад аўтарскіх гравюраў у навукова-даведачным выданьні? Больш дарэчныя тут былі б партрэты цароў Аляксандра І і Аляксандра II (якіх няма у ЭГБ), альбо Аўгуста II і Аўгуста III (выявы якіх прадстаўленыя каранацыйнымі мэдалямі замест добрых партрэтаў). Выклікаюць шкадаваньне такія ілюстрацыі як «Сучасны беларускі абутак» пры артыкуле «Абутак» (гэта ня толькі падман чытача, але й кепскі густ) або перакуленыя дагары нагамі Абклад евангельля з Жабінкаўскага раёну (с.12).

Істотны недахоп першага тому ЭГБ — адсутнасьць картаў да такіх важных і насычаных геаграфічным матэрыялам артыкулаў як «Аборончая апэрацыя на Беларусі 1941» і «Аршанская бітва 1564». Незразумела таксама, чаму на картах адміністратыўнага падзелу Беларусі (с.56), Беларускай апэрацыі 1944 г. (с.364) і пляну «Барбароса» (с.307) межы СССР паказваюцца на стан 1941 г., а іншых краін — на стан 1938 г. Ня трэба нагадваць, што на працягу гэтага пэрыяду адбыліся значныя тэрытарыяльныя зьмены.

Важная справа энцыкляпэдыі — унармаваньне тэрміналёгіі. На жаль, зь першага тому ЭГБ і з АіНБ не відаць, каб гэтая задача была пастаўлена. У складзе навуковых дарадчыкаў няма іменаў дасьведчаных мовазнаўцаў. Пакуль што сама энцыкляпэдыя блытае уніяцкую царкву і ўніяцкі касьцёл (пры вызначэньні помніка архітэктуры), архіяпіскапа й арцыбіскупа, чашніка Вялікага Княства Літоўскага называе на польскі манэр «чэснікам», пішучы назву грашовай адзінкі «асьмак», пасьлядоўна выкідае мяккі знак — «асмак». Няясна для энцыкляпэдыі, як пісаць імёны манахаў, што вымаўляюцца па-славянску на *-ій-*: Антоні ці Антоній, Арсені ці Арсеній і г.д. Таксама няясна, ці сьпярша называць манаскае імя, ці сьвецкае: Іосіф Руцкі ці Руцкі, Іосіф? Мяркуючы паводле АіНБ, толькі археолягаў можна падзяляць на: 1. археолягаў (Гурына Н.М., Гурэвіч Ф.Д., Таўтавічус А.З., Спіцын А.А. і інш.); 2. рускіх



археолягаў (Сядоў В.В., Рапапорт П.А., Кірпічнікаў А.М. і інш.); 3. савецкіх археолягаў (Кухарэнка Ю.У., Баронін М.М., Сяргеева З.М. і інш.); 4. беларускіх археолягаў (Бекціненў Ш.І., Ваганава А.М., Загарульскі Э.М. і інш.). Але ні выдаўцы, ні аўтары не тлумачаць прынцыпы, якімі яны карыстаюцца, далучаючы дасьледніка да адной з гэтых групаў.

Зручнасьць пры карыстаньні, магчымасьць лёгка знайсьці патрэбны матэрыял — неабходная ўмова энцыкляпэдычнага выданьня. ЭГБ і АіНБ не да канца прадуманыя і ў гэтым пляне. Найбольшы клопат чытач будзе мець, шукаючы інфармацыю пра рускамоўныя зборнікі дакумэнтаў і пэрыядычныя выданьні. Алфавітны прынцып разьмяшчэньня артыкулаў тут сапсаваны тым, што частка назваў перакладзена на беларускую мову, а частка пакінутая ў арыгінальным, рускамоўным варыянце. Адкуль чытач можа ведаць, што ў АіНБ «Археологические открытия», «Архитектурное наследство» і «Археологические известия и заметки» трэба шукаць паводле расейскай назвы, а «Археология и история Пскова и Псковской земли», «Археология СССР», «Белорусские древности» — паводле беларускага перакладу іх назвы? Чаму артыкул пра «Архив исторических и юридических сведений о России» Калачова пададзены з расейскай назвай, а «Акты Западной России» Грыгаровіча — у беларускім перакладзе (апошні прыклад узяты намі зь першага тому ЭГБ)?

Інфарматыўная значнасьць энцыкляпэдыі вызначаецца ня толькі зьместам артыкулаў, але й наяўнасьцю пры іх добрай бібліяграфіі. У першым томе ЭГБ часам сустракаецца пагарда асобных аўтараў да бібліяграфіі. Хочацца крыкнуць, як Станіслаўскі: ня веру! Ня веру, што лепшае зь літаратуры пра караля Аўгуста II — гэта работа Энгельса «Внешняя политика русского царизма», а пра гросмайстра Альбрэхта Брандэнбургскага — «Архив Маркса и Энгельса». Ня веру, што зусім няма ніякай літаратуры пра Аўгуста III і Ю.У.Андропава, пра П.Альбедзінскага і Аршанскую бітву 1564 году. Гаворачы пра Бабруйскую апэрацыю 1944 г., аўтар артыкула назваў у бібліяграфіі Савецкую ваенную энцыкляпэдыю, але не палічыў патрэбным успомніць спэцыяльнае дасьледаваньне П.Болдырава «Бобруйская операция» (М., 1945). У артыкуле «Алена Іванаўна» не названая галоўная крыніца — пасланьні Алены ў Маскву (надрукаваныя ў 35 томе Зборніка Рускага гістарычнага таварыства за 1892 г.) — і гэта пры тым, што артыкул пра Алену Іванаўну ў два разы большы за артыкул пра яе мужа, караля й вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягайлавіча. Артыкул пра скульптара З.Азгура не называе ніводнага выданьня яго багатых на інфармацыю мэмуараў...

Канкрэтныя прэтэнзіі можна множыць. Гаворачы пра першы том ЭГБ, можна наракаць на нізкі навуковы ўзровень артыкула «Багаслоўе», шкадаваць пра адсутнасьць спэцыяльных артыкулаў пра адну са сьвятыняў беларускага народу — Вастрабрамскі абраз Багародзіцы, пра аўтара цікавай гісторыка-картаграфічнай манаграфіі Астроўскага В. і г.д. Аднак варта сказаць, што рэдакцыя здолела вырашыць і досыць складаныя, асабліва для сёньняшняга дня, пытаньні. У ЭГБ змаглі дасягнуць добрай збалянсаванасьці навуковага й грамадзка-палітычнага гучаньня матэрыялу. Заўважныя шчырасьць і паспалітасьць, гаспадарска-беларускі пагляд на гісторыю свае краіны. Аўтары й рэдактары не саромеюцца ў нейкіх складаных выпадках, што патрабуюць спэцыяльных пошукаў, прызнаюцца ў сваёй недастатковай інфармаванасьці, паставіць у дужках пытальнік пасьля тае ці іншае даты, таго ці іншага факту (як, напрыклад, у артыкулах «Аб'яднаньне», «Беларускі клюб»). Тут няма звычайнай у савецкіх энцыкляпэдыях псэўданавуковай пыхі й маскі ўседасьведчанасьці. Ні трошкі ня шкодзіць і тое, што сярод аўтараў — людзі самых розных і нават супрацьлеглых палітычных поглядаў — калі гэта не вядзе (а як зазвычай, не вядзе) да сьвядомай неаб'ектыўнасьці.

Алесь Шкнай

*Ганарар за публікацыю прашу пералічыць на рахунак помніка першаму рэдактару ЭГБ Міхасю Ткачову.*



*Спас Нерукатворны. Пачатак XIX ст. Веткаўская школа. Аправа. Шыцьцё XIX ст. Ветка. Здымкі Анатоля Клешчука.*

## А ПАКУЛЬ — МЫ Ў НЕБЕ

**Леанід Дранько-Майсюк. Акропаль. — Менск: Мастацкая літаратура, 1994.**

Леанід Дранько-Майсюк надта доўга вучыўся паэзіі. Ён скончыў Літаратурны інстытут, працаваў (і працуе) ў рэдакцыі паэзіі выдавецтва «Мастацкая літаратура», дзе й выдаў усе свае кніжкі. Спакойныя, паэтычна вытрыманыя, далёкія ад цёмных глыбіняў і астральных катастрофаў. З прыемным налётам куртуазнасьці й эстэтызму. Палепшанай якасьці, у цьвёрдай вокладцы (апошнія). Добрымі тыражамі. Кніжкі, якія прыемна набываць, прыемна чытаць, прыемна дарыць... Адным словам, звыклы, утульны лёс беларускага паэта. Аніякага мадэрнізму, аніякага пратэсту, аніякіх нечаканасьцяў. Усё разьлічана, усё спрагназавана. Але...

«Акропаль». Мандэльштамаўскі сынтаксыс, беларуская прасодыя, блытаныя словы, нябёсная музыка. Нешта зусім нечаканае, неразьлічанае. Няпэўнае. Як быццам выбачэньне: «А пакуль — мы ў небе».

*У майстэрні, дзе ружам ня цесна,*
*Алькагольным суцішаны днём,*
*Я пішу на паперы нябеснай,*
*На паперы, што пахне віном.*

*Я пішу пра салодкую цьмянасьць —*
*Толькі зь ёю магу маладзець;*
*Дзе каханьне, а дзе закаханасьць,*
*Аніяк не хачу зразумець..*

*Залатою на пасцелі, ломкай,*
*Той, якую паэзія жне,*
*Я цябе называю саломкай,*
*Што кладзецца на вусны мае.*

*Над саломкаю буры хадзілі*
*І віхор успамінаў такі,*
*Што самохаць ляціць мой гадзіньнік,*
*Нібы чорная птушка, з рукі..*

*Я запомню сіротасьць букета —*
*Залацістую золь на траве!*
*Ён шаптаў нам: у радасьці гэтай*
*Алькагольнае шчасьце жыве.*

*Я майстэрню сваю аплятаю,*
*Замыкаю на ружы-замкі*
*І з каленяў тваіх выпіваю*
*Фіялетавыя васількі.*

І што з таго, што ўжо было пра саломку? «Когда, соломинка, не спишь в огромной спальне...» Што з таго, што ўжо было пра каханьне? Што з таго, што ўжо былі паэты?

Стывэн Д.

## МАСКОЎСКІ ВОБРАЗ У БЕЛАРУСКІХ ШАТАХ

**Веткаўскі музэй народнай творчасьці. — Менск: Беларусь, 1994. — альбом, 168 с., 109 кал. іл. Складальнікі: Г.Р.Нячаева, С.І.Лявонцьева, Ф.Р.Шкляраў.**

Пра веткаўскіх старавераў вядома шмат. Сюды, у Ветку, ў 1680-я гады, ратуючыся ад перасьледу сваіх суайчыньнікаў, перабеглі з Расеі маскоўскія папы з 12 сем'ямі. Пасьля да іх далучыліся ўцекачы больш чым з 20 губэрняў Расеі. Ветка стала міні-Масквою, са сваёй Краснай плошчай і Пакроўскім саборам.

Калі ж Расея дабралася й да гэтых краёў, Ветка была разрабаваная. Але пакутнікі за веру выстаялі, зьберагалі кнігі, абразы, унікальныя рамёствы.

Аўтары прадмовы (Г.Нячаева й С.Лявонцьева) выкладаюць традыцыйны пагляд на культуру Веткі. Паводле прадмовы атрымліваецца, што тут надзвычай дакладна захаваліся традыцыі Расеі XVII ст., што йснавалі спрадвеку трывалыя ўсерасейскія сувязі (ад Пецярбургу да Кішынёву) і г.д.

Узаемадачыненьне тутэйшай і расейскай культураў бачыцца аўтарам хіба што так: «... Як і ў беларускім, у мясцовым іканапісе XVIII ст. назіраецца злучэньне зводаў...»; «зьлітыя наўгародзкі й растова-суздальскія іканаграфічныя тыпы...» Для іканаграфіі Маці Божай паслужылі асноваю «... рускія й заходнеэўрапейскія гравюры». Дык пры чым тут Беларусь? Складальнікі настойліва супрацьпастаўляюць «мясцовы, веткаўскі» іканапіс «беларускаму» і ў прадмове, і ў асноўнай частцы альбому.

Такое рэзкае супрацьпастаўленьне робіць культуру старавераў на Беларусі ўсяго толькі выспаю расейшчыны, пэўным выключэньнем, а не самадастатковай зьявай у натуральным культурным атачэньні.

Таму й структура самога выданьня сталася неарганічнаю. Іканапіс, дэкаратыўна-ужытковае мастацтва Веткі самі па сабе, а «Ткацтва й касьцюм» — беларускія...

Між тым, аналіз веткаўскіх абразоў і асабліва іх шатаў яскрава сьведчыць, што ў XVIII — першай палове XIX ст. на мастацтва старавераў магутны ўплыў аказала ўніяцкая культура Палесься. Гэта можна прасачыць і ў элемэнтах убораў сьвятых і ў характары дэкору (дзе адчуваюцца элемэнты позьняга барока), а часам і ў некаторых кампазыцыях («Маці Божая Заміласаньне злых сэрцаў», «Цар цароў» ды інш.). Такое пранікненьне агульнаэўрапейскіх уплываў, адаптаваных праз уніяцкую царкву на Беларусі, у мастацтва хрысьціянаў усходніх абрадаў лёгка вытлумачыць. Менавіта ў такой зоне канвэргенцыі й апынулася веткаўскае мастацтва, якое было да сярэдзіны XIX ст. арганічнай часткай рэгіянальных школаў Палесься.

Самы просты прыклад мэханічнага сымбіёзу культураў, а разам з тым найбольш паказальны — гэта абраз «Маці Божае Уладзімерскае» (іл. 71). Абраз, пісаны ў канцы XVI ст. ў Маскве, набыў напрыканцы XVIII ст. пекныя ракайльныя шаты на Беларусі. Чысьціня стылю, філіграннае выкананьне, крыху сухаватая й здрабнелая «графічная» манэра, а разам з тым поўная выбуховай дынамікі (анёлы ўверсе, да прыкладу, ужо зусім далёкія ад арыенталізму), — даюць падставы меркаваць пра тутэйшае паходжаньне гэтых шатаў. Так у адным помніку сыйшліся Ўсход і Захад. І сыйшліся ў Ветцы.

Пазьней, відавочна, пад уплывам «усерасейскіх сувязяў», пасьля аслабленьня антаганізму паміж старавермі й Рускай праваслаўнай царквою, самабытнасьць веткаўскай культуры занепадае. Усё часьцей прататыпамі абразоў становяцца паліграфічныя ўзоры з Усходу. Манэра пісьма й дэкору абразоў ссушэла, але набыла часам рысы народнага «прымітыву».

Аднак натуральна, што скарбамі толькі аднаго, няхай і вельмі багатага музэю, не абыйсьціся пры вывучэньні гісторыі культуры такога ўнікальнага кутка Беларусі, як Пасожжа. Рэдкі сёньня па сваіх выдатных паліграфічных якасьцях альбом стаўся вартым памяці Хведара Шклярава, заснавальніка Веткаўскага дзяржаўнага музэю народнае творчасьці.

С.Харэўскі

# PROMENADE

**Якраз пад трэцюю гадавіну свайго йснаваньня Рэдакцыя адноўленай «Нашай Нівы» зрабіла вандроўку зь Вільні ў Давыд-Гарадок і назад у Вільню, двума шляхамі перасякаючы ўсю Беларусь з поўначы на поўдзень. «Афіцыйная» тэма экспэдыцыі — культавая архітэктура міжваенных гадоў, тое, пра што ў нашай мастацтвазнаўчай літаратуры амаль нічога ня знойдзеш. Пра тое, што мы пабачылі, пачулі й перадумалі за гэтыя два дні, распавядаюць гэтыя падарожныя нататкі.**



*Дзятлаўскі раён, вёска Явар. Вішня.*



*Экспэдыцыя «Нашай Нівы» ў двары Бярозаўскага картускага кляштару.*

За Салечнікамі, за мытняй у Беняконях, дзе цяпер сканчаецца адна краіна й пачынаецца другая, у Воранаўскім раёне — першы аб'ект падарожжа — Канвелішкі.

Невялічкае мястэчка. Касьцёл мы пабачылі амаль адразу. Два павароты і — сквэр, пляц... Усё дагледжана. Толькі што паставілі бэтонныя бардзюры, новы асфальт. Касьцельная брама зіхціць яшчэ новаю бляхай, і сам зграбны драўляны касьцёлік, здаецца, яшчэ пахне фарбай. Дзіўна, але не адчуваеш ніякага пярэчаньня гэтаму люксусу з боку наваколься. Можа таму, што добрае надвор'е, ёсьць нейкая адпаведнасьць ва ўсім. Здаецца, вось менавіта так дагледжана й адпаведна павінна быць паўсюль.



*Воранаўскі раён, вёска Канвелішкі. Касьцёл Сэрца Ісуса (1906 г.).*

Уперад жа помнік архітэктуры выклікаў асацыяцыі з замшэласьцю, скасавуранасьцю ды цьвільлю. Карацей, хацелася бачыць «сапраўднасьць» помніка, які «ахоўваецца дзяржаваю»...

Але вось стаіць сабе драўляная бажнічка з 1916 году, і абмінулі яе пажары ды рупнасьць «ахоўнікаў». Ну так, Канвеліскі касьцёл помнікам ня лічыцца. Касьцёл сабе й касьцёл. Сьпічасты, «ікласты», але свойскі, наіўны сваёй белай «ружаю» з дрэва.

Навокал хаты беднаватыя. Тая, што бліжэй да нас — зусім старая, нешаляваная, зь іржавым літым расьпяцьцем, прыцьвікаваным проста да шурпатага бярвеньня. Гаспадыня тлумачыць, дзе жыве ксёндз.

Плябань не саступае касьцёлу: сьвежапабеленая калянада, прасторны порцік, вакол — батанічны палісад. Ксёндз зьбянтэжаны — ці тым, што паднялі, ці тым, што нос у яго зьбіты, прыпухлы. Гаворыць папольску. Сам чарнявы, гладкі. Нетутэйшы.

Сярэдзіна касьцёла зьдзіўляе яшчэ больш. Разьба, пазалота, мігцяць вітражы, жырандолі, бра. Даволі густоўна. З-пад столі спадаюць новыя ядвабныя йстужкі. Пераважна чырвона-белыя. Мы фатаграфуем з хораў, у алтары. Электраарган,новенькія рэпрадуктары, паўсюль электраправодка...

Па дарозе нам — Гайцюнішкі. Не па тэме, але... Славутая сядзібафартэцыя, што была закладзеная напрыканцы 16 ст. дойлідам Ван Нонхартам разам зь віленскім фартыфікатарам, таксама галяндцам Вам Дандэнам. Мы пераказваем адзін аднаму хрэстаматыйныя якасьці славутага помніка. Прыехалі.

Вакол дрот, бэтонныя слупы: вар'ятня. «Псіхіятрычная бальніца». Сьлынны будынак нягегла пакрыты чым толькі можна: кавалкамі шыфэру, бляхай, на адной вежы — спарахнелая гонта. Па бакох — прылепкі зь сілікатнае цэглы, нейкі бункер, кацельня, кучы сьмецьця. Навокал маўкліва стаяць старыя чорныя яліны. «Дзядзька, дай закурыць!» — некалькі разоў з аднолькай інтанацыяй паўтарае нехта ў вузенькім закратаваным вакенцы байніцы. Гэтую фразу падхоплівае яшчэ нехта. Праз тоўстыя краты цягнуцца рукі...

Тут жа, за сядзібным паркам, спрамляюць рачулку Жыжму: тлустая чорная глеба разварочана экскаватарамі па ўсім даляглядзе. Яловыя прысады... Зьяжджаем, нават ня выняўшы фотаапаратаў.

Зноў паказаліся Беняконі. Агромністы дагледжаны касьцёл (шкада, зьнялі старую дахоўку), шыхт дамкоў уздоўж дарогі.

Па дарозе на Радунь падхапілі хлапчука. Такога змрочнага, маўклівага. Ён падазрона прыслухоўваецца да нашае ўзрушанае гаворкі. Нам, паміж іншым, заўважае, што ён паляк. Па-расейску...

Абапал дарогі наўкола рассыпаныя хутары. З кожнага ўзгорку іх відаць адразу некалькі.

Радунь — вялікае мястэчка, некалі цэнтар раёну (пакуль палова яго не адыйшла пад Літву). Пасярэдзіне — вялізны двухвежавы касьцёл. Ягоныя вежы ўжо здаля ўсплывалі па-над дрэвамі то з аднаго боку, то з другога, у залежнасьці ад выкрутасаў дарогі.

Нарэшце пад'ехалі. З касьцёлу толькі што вынесьлі нябожчыка (якая гэта прыкмета?). Сам касьцёл уражвае памерамі (можа, на тле астатняй местачковай забудовы), і сваім вобразам (можа, таму, што пра бажніцы XX ст. няма стэрэатыпаў).

Сьцены выкладзены з бутавага каменю (часам трапляюцца вельмі вялікія валуны) і толькі кутнія шчыпцы трансэпту й цэнтральнай навы ды вежы выраблены з бэтону. Такое ўражаньне, быццам яго высякалі з каменьня й толькі крыху дадалі прыўкрасаў. Ён як скульптура, разгортваецца рознымі ракурсамі пры кожным кроку вакол яго.



*Воранаўскі раён. Радунь. Касьцёл Ушэсьця (1929-33 гг.)*

Зноў нам раюць перад тым, як фатаграфаваць усярэдзіне, зьвярнуцца па дазвол да ксяндза. І зноў вакол плябані — «райскі» сад: туі, барбарыс, цярноўнік і безьліч кветак. Ксёндз зьбіраецца на могілкі. Засяроджаны, стомлены стары чалавек...

Усярэдзіне будынка ўражаньне супярэчлівае. Памеры інтэр'еру зьдзіўляюць размахам. Арган. Вялікія хоры разьбягаюцца двума рукавамі аркадаў над бакавымі навамі. Як у раманскіх ды гатычных бажніцах. Размалёўка быццам адпаведная, але алтары й шаты абразоў нібыта ракайльныя. Сюды ж дадаюцца разнастайныя жырандолі, бра, падсьвечнікі з тоўстага шкла (мабыць, 20-х гадоў) у духу мадэрну. Экзатычнае відовішча. Усё прыбранае, прамытыя нават вітражы (таксама мадэрн), зь якіх глядзяць зьнямелыя сьвятыя... Гэтага касьцёла таксама няма ані ў «Зборы помнікаў», ані ў ЭЛіМБеле.

Аб'ехалі Ліду. На ўскрайку жоўты касьцёлік. Вядома, ён стары, але ў атачэньні дамоў зь сілікатнай цэглы няма адчуваньня яго сакральнасьці, таемнасьці. Да культавых будынкаў мы міжволі прыкладваем зусім іншыя меркі, чым да звычайных...

Дзятлава. Пекны выгін дарогі на пагорках — як гасьцінны рух рукі, што запрашае ўвайсьці. Тут элегантны касьцёл, прыгожы невялікі гарадок. Але нам далей...

Явар — вёска ў баку ад асноўнай дарогі. А таму грунтоўка тут павыбітая калгаснай тэхнікай. Людзі яшчэ шчыруюць у полі.

Яварская царква Раства Багародзіцы — невялікая бажніца на крутым пагорку, дзе некалі, мабыць, быў стары пагост, на што паказваюць зьімшэлыя камяні паўразбуранае агароджы, якая ўрасла ў зямлю. Сама царква складзеная з бэтонных блёкаў за польскім часам — у 1933-м. Простыя модулі: куб, прастакутнік, пляскатыя стрэхі, нібы вяртаюць нас да першага сэнсу бажніцы, як у раньнім хрысьціянстве. З бабінца тры ўваходы разыходзяцца прыступкамі на тры бакі — нібы крыж. Нечакана вялікія вокны. Дзякуючы ім царква асьвятляецца наскрозь. Усярэдзіне няма слупоў. Зграбны й просты будынак толькі што перакрылі новай дахоўкай. Шэры бэтон, вокны ў жалезных рамах, луска дахоўкі, на якую яшчэ ня лёг пыл.

А зь цьвінтару відаць усё наваколье, удалечыні — рака, стужка лесу, палі, ззаду — вёска, якую прыкрыў цень хмары. А пад гарою квітнее вішня, пад вішняй — ахайная драўляная прыбіраленка. Краявід для мастацкага фота.

Слонім і ваколіцы — беларускі Ерусалім. Колькі раней тут было бажніцаў розных вераў!.. Аб'яжджаем пляц, на якім стаіць касьцёл Сьв. Андрэя — шэдэўр беларускага ракако. Памятаючы яго з 80-х, мы прыціхлі. Здаецца, адбыўся цуд. Касьцёл адрэстаўравалі палякі. Зь вялікім піетэтам і вельмі эстэтычна...

Мы скіроўваемся ў прадмесьце Альбэртын. На схіле крутога пагорку за вялікімі соснамі стаіць манумэнтальны касьцёл з высокім чатырохгранным шпіцом. Ён пазбаўлены прыўкрасаў, налепак, даробак, але шчыльна зьбіты, упёрты ў тоўшчу зямлі. Толькі крыж, які ўзносіць ён па-над соснамі, застаецца ў памяці. Прызначэньне дыктуе вобраз. Чым больш непасрэдная гэтая сувязь, тым мацнейшае ўражаньне.

Побач з касьцёлам — былая ўніяцкая царква з кляштарам. Гэты кляштар у Альбэртыне быў закладзены ў 1925 г., а будынак царквы ўзьвялі ў 1933-м. Сёньня яна перададзеная праваслаўным. Тут ідзе багаслужба. Пакуль здымаем, за намі прывязваецца нейкі маладзён.



*Дзятлаўскі раён, вёска Явар. Царква Раства Багародзіцы.*



*Слонім. Альбэртын. Касьцёл. 20-я гады.*

Жонка прагнала яго з хаты, каб не замінаў, пакуль там зьбіраюць на сьвяточны стол. У яго свае ўяўленьні: гэты касьцёл — каталіцкі, а гэтая царква — хрысьціянская. А яшчэ ён ведае, што ў Слоніме пачалі рэстаўраваць сынагогу й зьявіліся «нейкія баптысты»...

Мост праз Шчару, выезд са Слоніма, Жыровічы. Ці варта распавядаць, як выглядаюць жыровіцкія сьвятыні на гары цёплым травеньскім надвячоркам? Б'юць званы...

Крыжы. Цяпер па ўсёй Беларусі ставяць крыжы. Усё як калісь. Краіна крыжоў. На Гарадзеншчыне мы бачылі пераважна каталіцкія. Простыя, у квадратных агароджах. Пасярэдзіне — мэталічны Езус. Часам на выезьдзе зь вёскі ставяць аж два крыжы, каталіцкі й праваслаўны. Большасьць крыжоў — зусім сьціплыя, часовыя. Але глыбей на Палесьсі сустракаюцца й велізарныя, спрэс пакрытыя разьбою, з Хрыстамі — самотнымі, нібы лялечнымі. На Вялікдзень і на Радуніцу іх упрыгожваюць асабліва. Каталікі перакідаюць стужкі, мацуючы іх да крыжа й штакетніку, надзяваюць вянкі. Праваслаўныя падпярэзваюць ручнікамі, а на Поўдні — і маленькімі вышыванымі фартушкамі. І багата кветак, чым болей — тым лепей. Адзін крыж пры дарозе, другі, трэці. Ужо неяк і цяжка прыгадаць, як было бязь іх. Амінь...

Івацэвіцкі раён, Міронім. Проста ля дарогі яшчэ адна царква: сама белая, сінія цыбуліны, купалы, у густых дрэвах, што шапацяць яшчэ маладым лісьцем.

Дарога пайшла пад нахілам уніз...

Быцень. Маляўнічае мястэчка. Узіраемся, шукаючы славуты базыльянскі манастыр. Не заўважылі. Зьлева Шчара. Яшчэ поўная веснавой вады. За паплавамі відаць усё далёка-далёка.

Чыгунка. Вёска Даманава. Рэчка Грыўда. Рыфмуем назву. Нарэшце, Берасьцейская шаша. Дарога кепская, але простая ды шырокая.

Другі раз — Грыўда. Вёска Любішчыцы. На пагорку справа — царква Сьвятой Ганны. У апошніх промнях веснавога сонца кожная роўнядзь яе граняў зіхціць, нагадваючы пра нейкі вышэйшы абсалют гармоніі й сымэтрыі. Цьмяна-зялёныя шатры — як вечаровая трава, а жоўтыя, сьвежа пафарбаваныя сьцены — як жаўткі травеньскіх дзьмухаўцоў. Мы шукаем аб'ектывамі найлепшыя ракурсы між старых цьвінтарных бярозаў. «Почему вы снимаете без разрешения культовое здание?! Я вот пойду батюшке скажу!» — заводзіцца маладзіца зь дзіцём на руках. Тут жа некалькі старых кабетаў — апранёныя чыста, па сьвяточнаму. «Покажите документ!..» Зараз, зараз будзе дакумэнт, — адказваем мы, набліжаючыся да яе. Маладзіца ў разгубленасьці бяжыць у царкву. Мы ўжо адшчоўкаліся. Здымаць усярэдзіне адпала ахвота. Дый позна...

Пекная Любішчанская царква, кіўнуўшы нам на разьвітаньне сваімі бярозамі, засталася ззаду.

Трэці раз Грыўда. Івацэвічы.

У Івацэвічах уздоўж дарогі таўсьценныя таполі з ахайнымі вапнавымі палоскамі-«падвязкамі». Старая (20-х гадоў) чыгуначная станцыя ў манэры «другога барока» з высачэзнай мансардавай страхою. Мы збочваем на Косава: недзе тут, у вёсцы Запольле, праводзіць свой ўік-энд віленскі паэт Алег Мінкін.

Праехалі Гошчава са старой вялікай Крыжаўзьвіжанскай царквою. Цёмна-сіняя царква на цёмна-зялёным пагорку... Дарога на Запольле ніякаватая. Колькі пылу!

Запольле, вуліца Школьная. Дзе тут хата Зайкі Алеся Фаміча? Ён настаўнік, а ў яго — Мінкін... Нарэшце.

Задаволены сабою босы паэт зьбянтэжаны нашаю колькасьцю. Ён тут адзін. Гаспадар недзе на сваім трактары арэ сваё поле. Абедзьве жонкі зь дзецьмі — у суседняй вёсцы, сьвяткуюць. Заходзім пакуль у хату. Тэлефон, паліцы кніжак на розных мовах. Мінкін запэўнівае нас, што на гарышчы — экспанаты будучага музэю, чытае нам свае фальклёрныя запісы й дае ў дарогу гаспадарскага тварагу ў газэце.

На Бярозу. Ужо зусім сьцямнела, а мы ляцім да свайго начлегу.

У Бярозе пусты гатэль. Адзін нумар на ўсю брыгаду «НН». Немаладая адміністратарка гаворыць амаль па-ўкраінску. Неяк удаецца схаваць нашае «замежнае» паходжаньне (інакш кошты большыя ці не ў пяць разоў). Нумар задавальняе, але сёньня нас чакае яшчэ адна сустрэча.

Спадар N., сябра нашага сябра, жыве ў прасторным двухпавярховым новым доме. І ў яшчэ недабудаваным гаражы мы пакідаем на ноч сваю «літоўскую» машыну. Апошнім часам на машыны зь літоўскімі нумарамі падазрона глядзяць беларускія міліцыянты, вахцёры, швэйцары, работнікі аўтазаправак, аўтастаянак і інш. Замежнікі...

Тымчасам гаспадары ладзяць вячэру. Спадар N. — колішні галоўны архітэктар Бярозы. Пра ўсе ягоныя цяперашнія заняткі можна пісаць асобна, і гэта будзе цікава. Але «Наша Ніва» яму не прыходзіць, хоць ён і выпісвае. Быў на першым, віленскім зьезьдзе БНФ, і наогул — што чуваць у Вільні?..

Па начных вулках вяртаемся ў гатэль. «Хочешь мира — борись за мир!» — выцьвілы транспарант расьцягнуўся на ўвесь гмах. Чорны Ільліч махае рукой на Захад...

Раніцою мы забіраем машыну й дзякуем спадару N. і ягонай жонцы за духмяную й моцную каву, за гарачую ваду й за гэтую сустрэчу...

Абавязковы пункт — Бярозаўскі кляштар картузаў. У свой час — адзін з буйнейшых у Эўропе, сёньня ён уяўляе сабой маляўнічыя руіны, у якіх, нібы дзеля падкрэсьленьня кантрасту, раскіданыя рэшткі савецкай ваеннай тэхнікі. Дасканаласьць вялікага ансамблю, сухаватае дакладнае барока (падобнае да францускага) і кінутыя ваенныя цягачы, гусеніцы, кабіны... З-за рогу кляштара выпаўзла й правалюхалася каля нас нейкая ненатуральна вялікая вайсковая машына. І нават беларуская сымболіка на баку не адмяніла раптоўнага спалоху. Магчыма, быць таму, што пакуль гэтая сымболіка тут яшчэ нічога ня значыць...



*Бяроза. Кляштар картузаў. Брама (1648-89 гг.).*

Імкнем на Антопаль. За Бярозай на поўдзень — адныя палі...

Пры дарозе вёска Сігневічы. Убаку на пагорку ў шатах дрэваў прысела старасьвецкая царква (былы Пакроўскі касьцёл, 1785 г., позьняе барока). Толькі адрэстаўраваны будынак здалёк здаецца драўляным...

Сонца падымаецца хутка. Паварот на Ястрэмбель. Дарога пайшла праз лес. Месьцічу ня часта даводзіцца бачыць лістоўны лес на пачатку траўня. Адчуваеш сябе нязьдатным да самакантролю, нібы на добрым падпітку. Шаленства гальля, травы... Як быццам зьбілі з ног ахапкамі букетаў... Вёска Баркі... Жыве Беларусь!

Марна спрабуем змагацца з пылам у машыне. На грунтоўцы гэта бессэнсоўна.

Дзеткавічы. Ізноў царква, зь вежачкай-званіцай. Драўляная, Пакроўская, сьціплае народнае барока 18 ст. Варта толькі збочыць зь берасьцейскае шашы, каб пераканацца, як шмат яшчэ ацалела бажніцаў. Слава Хрысту! Сапраўды Берасьцейшчына — вельмі сьветлы край...

За вакном прамільгнула Зелаўская Траецкая царква. Таксама драўляная, бумбялочкі, цыбулінкі... Няма калі й разгледзець як сьлед.

Раўніна стала абсалютнаю, як возера, што рабіць толькі хвалькамі руні. І нібыта на беразе — Антопаль. Вялікае, але ўтульнае мястэчка ў ружова-цукровай пене садоў. Проста пасярэдзіне — вясёла-блакітная царква. Поўна сьвяточна прыбранага народу, жанчыны з кветкамі. Дзе пажарная частка — за палякамі быў касьцёл, гарнізонны, 1938 г.

Каля будынка па газоне ходзіць вялікі белы індык. То прысядзе, то пройдзецца ў засень чаромхаў. Расставіў крылы, завуркатаў, распушыў хвост, рыхтык індзейскі правадыр. Каб не чырвоны гузак, што боўтаецца на дзюбе, выглядаў бы вельмі сур'ёзна... Ад чаромхі ажно няма чым дыхаць. Ці то ўжо не чаромха? Каштаны квітнеюць, вішні квітнеюць, яблыкі, бэз...

Касьцёл (пажарная частка) выклікае хутчэй спачуваньне. Канструктывізм ягонай архітэктуры вымагае большае прасторы й адпаведнага атачэньня, а ён з усіх бакоў залеплены нейкімі прыбудоўкамі, дрэвы навокал так разрасьліся, што ён здаецца зусім маленькім. Дваровая пабудова — і толькі. Між тым, фасад і сёньня дае амаль поўнае ўяўленьне пра стылістыку 30-х.

Пажарнікі, што сумуючы драмалі пры поўным абмундзіраваньні ў сваёй бытоўцы (колішнім алтары) былі радыя паказаць нам усё чыста. «Забіраць будзеце? Тут ужо прыяжджалі з Польшчы, фатаграфавалі таксама...» Іх спадзеў на забраньне касьцёлу становіцца зразумелы, калі залазіш на вежу, на гарышча. Страхі над вежаю няма, лесьвіцы спарахнелі, кучы птушынага гною...

А зь вежы — шыкоўны агляд: мястэчка ў зеляніне й кветках, паласатыя цыбуліны царквы, пахне сьвежым хлебам, які толькі што прывезьлі ў краму...

Прамінаем Драгічыншчыну, Загародзьдзе. Самае плюскатае месца на Беларусі. Недзе тут за палямі — эолавыя зыбучыя пяскі.

Міма Драгічына, Янава — проста ў Пінск. Вялікі, «самадастатковы» горад. Відаць, як рупяцца архітэктары й будаўнікі: новыя дамы не падобныя адзін да аднаго, шмат дахоўкі. Такі шчыльна-цагляны, вохрысты каларыт моцна ўдаецца ў памяць. Зьнятыя рыштаваньні з касьцёла Карла Барамея (кляштару паўночна-італійскага закону камуністаў), ганарліва зіхціць пасьля рэстаўрацыі калегіюм езуітаў, францішкане над ракою. Няма як вачэй адвесьці. Ужо й мост цераз Прыпяць мінулі, а шпіцы Пінску яшчэ доўга відаць. Сюды трэба ехаць адмыслова...

Дарога зноў пайшла пад нахілам уніз. Пінскія балоты. Дзе яшчэ на Беларусі столькі вады? Рэкі, старыцы, паплавы... Справа — сажалкавая гаспадарка; каля кожнага става масток, ліхтарык. Цывілізаванасьць. Кабета шыбуе па шашы, трымаючы



*Антопаль. Пажарная частка. Гарнізонны касьцёл 1938.*

ў руцэ велізарнага шчупака — да зямлі. Палесьсе.

Рака, яшчэ рака. Прыпяць, Стыр... Нарэшце, Столін. 9 траўня. Перад Леніным сабраліся сьвяточныя людзі, нейкія хлопцы сьпяваюць пад гітару. Чырвоныя сьцягі. Беларусь — гэта іншая храналёгія. Але галоўнае, каб былі сьвяты. Усё прыбрана, пафарбавана. Крамы й шапікі працуюць. Народ адпачывае. Толькі што небагата народу. Манькавіцкі парк пусты...

Давыд-Гарадок. Каб сюды патрапіць, трэба пераехаць не адзін мост.



*Давыд-Гарадок. Дом культуры. Касьцёл 1937 г.*

Заўважаем, што фальксвагенаў тут больш, чым жыгулёў. Тутэйшы касьцёл (Дом культуры) — цагляная спаруда, моцна панявечаная (зьнішчана вежа, прыбудаваная бэтонная танцпляцоўка) здаецца нейкай нетутэйшай, занадта магутнай і трывалай пасярод драўлянага мястэчка. І праўда, ён хутчэй выдае на гераічную архітэктуру Італіі 1930-40-х. Клясычны паўночна-італійскі манумэнталізм М.Пьячэнціні. Вялікія задачы. Усё змыкаецца. 30-я гг.

Высокія платы, спадарожнікавыя антэны. Па вузенькіх вулках пад'яжджаем да самае вады (яна тут паўсюль блізка). Каля супрацьлеглага берага старыцы, шпарка вяслуючы караценькім вяслом, праплываюць на чаўне гараджане. Экзотыка... Колькі адсюль да Ўкраіны? А дзе Вільня?




Адваротны шлях — больш хуткі. Прамінулі Баранавічы. У заходзе сонца блiснула Сьвіцязь. Лес абступіў нас разам з шараю гадзінай.

Тутака ўжо горы. Калі едзеш вельмі хутка, то адчуваеш сябе нібы на атракцыёне.

Вулька... На пагорку, што насунуўся на самую дарогу — драўляны касьцёл, перароблены яшчэ за Расеяй на царкву. Драўляны будынак.

Вось і Наваградак. Людзей на роварах безьліч. Горны народ.

Мы імкнемся хутчэй да мяжы. Уселюб. Над вялікім старасьвецкім паркам зьзяе ўжо адрамантаваны касьцельны шпіц. Трэба будзе якнебудзь сюды вярнуцца.

Ноч. Іўе. Шыхт вэрандаў, чорны абрыс мінарэту. Уся дарога як перакапаная. Залітьі сьвятлом палац культуры, ну рыхтык опэра... Начная крама. Хлопцы, дзеўкі толькі выходзяць на вуліцы. Паварот, яшчэ паварот... Поўная цемра.

На даляглядзе сьвятло. Геранёны. Высачэзная рэтрансляцыйная вежа ў вугальках чырвоных лямпаў. Мы спрачаемся — чыя, зь якога боку мяжы? Мяжа недзе тут, блізка.

Спаруда старажытнага касьцёлу, а за ім — сапраўднае «колесо обозрения». Як у Менску ці Гомлі. Нашто? Хіба каб Літву глядзець?

Пытаемся ў купкі хлапцоў, як праехаць у Літву. «А вы хочаце без граніцы?» Яны зараз нам раскажуць... Але мы хочам «з граніцай».

Новая асфальтаваная шаша прыводзіць на мытню. Беларускія мытні — што віленскі аэрапорт. Літоўскія сьціплейшыя. Ну вось, пачалося...

У нас спрабуюць адабраць фотаапараты, стужкі («А может, вы снимали военные объекты?»). Беларускія мытнікі гавораць па-расейску. Літоўскія памежнікі лічаць, што яны ахоўваюць мяжу з Расеяй.

Але праехалі.

Падрыхтаваў Антон Сіюль.
Здымкі Дзяніса Раманюка



работніца не адчыняе, адказвае: «Вас тут няма, дзеці ў суседкі».

«... Судзіла яго асобая нарада. Далі пяць галоў папраўчага лягеру й 28 лістапада 1940 году накіравалі ў Марыінскі лягер Навасібірскай вобласьці.

Едучы праз Менск, АМ нейкім чынам перадаў запіску Уладзіславе Францаўне Луцэвіч, прасіў пра перадачу. Калі УФ затэлефанавала Купалу ў Маскву, той адказаў: «Аддаць усё маё». Але, калі УФ прынесла перадачу, адказалі, што цягнік ужо пайшоў.

Ён мог памерці ў сваім улюбёным Менску, але, дзякуючы моцнаму здароўю, працягнуў яшчэ да Навасібірску».

«Свидетельство о смерти

Гр. ВЛАСОВ Александр Никитич умер одиннадцатого марта тысяча девятьсот сорок первого года. Причина смерти порок сердца, о чем в книге записей актов гражданского состояния произведена соответствующая запись...»

«Вас тут няма»... Людзі сабралі ёй грошы на дарогу — да Баранавічаў, да сястры. У 1946-м яна вярнулася ў Гомель.

* * *

Я запісаў яе ўспаміны на магнітафон і ў нататнік, зрабіў копіі тых папераў, што засталіся ад яе архіву пасьля візытаў менскіх дасьледнікаў. А неўзабаве яна памерла. Яна казала мне, што ёй 104 гады.

Ужо даўно няма тае касэты, якую «зайграў» нехта з маіх знаёмцаў, штосьці зь яе ўспамінаў пра Гомель, якія засталіся ў маім нататніку, я мяркую надрукаваць у гомельскім нумары «НН», а фрагмэнты лістоў, што дасылалі ёй знаёмцы яе й яе мужа, хачу надрукаваць сёньня, да трэцяе гадавіны адноўленае «Нашай Нівы». Аўтары гэтае карэспандэнцыі — вядомыя беларускія дзеячы, пісьменьнікі й іх сваякі. Таму я ня стану прадстаўляць іх. Гэта прозьвішчы, якія можна знайсьці ў даведніках.

У гэтых лістох, аб'яднаных імем тытана й адрасаваных да ягонае жонкі, — паўстае карціна эпохі «савецкага пэрыяду», няпростага выжываньня тых, хто застаўся. Пры жаданьні ў гэтых ціхіх сьведчаньнях учарашняга дня можна ўбачыць грандыёзную карціну распаду магутнай нацыянальнай ідэі, якой так нялёгка цяпер «натуралізавацца» й вярнуць сабе здаровы румянец на шчокі пасьля гэтых пяцідзесяці гадоў.

* * *

... Прыкладам стаіцызму была Ларыса Геніюш. Колькі ні намагаюся — не магу ўспомніць яе голас. Голас Зоські Верас — помню, сваёй бабулі — помню. А Ларысы Геніюш — не. Найбольш выразна памятаю голас Аляксандры Ўласавай — нават у такім паважным узросьце — высокі, чуваць, што пастаўлены яшчэ ў дзявоцтве.

* * *

Паважаная грамадзянка Ўласава!

Адказваю на Ваш ліст. Сэнатара Ўласава мне даводзілася бачыць у Вільні ў 1928 годзе. Я тады прыяжджаў у Вільню дэлегатам на зьезд ТБШ. Адбыцца зьезду наканавана не было. Яго не дапусьціла паліцыя.

Сэнатара Ўласава я бачыў на кватэры ў Дварчаніна. Ён як быццам і прыйшоў пабачыцца са мною. Я помню яго вялікую пульхную руку, якую мне даводзілася паціскаць. Ён распавядаў мне, што быў у міністра сельскай гаспадаркі й прасіў адкрыць у Заходняй Беларусі сельскагаспадарчыя школы замест зачыненых беларускіх гімназій — у Наваградку, Клецку, Радашкавічах.

Я ж быў з Косаўшчыны, дзе ў 1928 годзе 3-га лютага адбылася дэманстрацыя, якая скончылася расстрэламі (было забіта пяць і паранена больш за трыццаць чалавек).

Гэта цікавіла сэнатара. І ён дабрадушна мне казаў зь ледзь прыкметнай усьмешкай пад вусамі:

— Надта ўжо радыкальная ваша Косаўшчына, надта ўжо радыкальная.

Вось і ўсё, што засталося ў маёй памяці ад сустрэчы з сэнатарам Уласавым.

Будзьце здаровы. Жадаю Вам посьпеху ў Вашай працы.

П.Пестрак, 1961.

* * *

Паважаная т. Уласава!

Прашу прабачэньня, што забыў Вашае імя па бацьку.

Калі Вы былі ў Менску, я хварэў. Калі я выйшаў на працу, то даведаўся, што Вы толькі ўчора выехалі.

Я вельмі рады, што Ваш муж рэабілітаваны й несправядліва зганьбаванае яго імя аднаўляецца і ўводзіцца ў гісторыю Беларусі. Напісаўшы ў свой час па Вашай просьбе пра яго водгук, я ў некаторай ступені спрыяў гэтаму. У астатнім я наўрад ці здолею Вам дапамагчы. Я і інстытут гісторыі партыі пры ЦК КПБ, дзе я працую, займаемся распрацоўкай гісторыі КПБ. Я канкрэтна — гісторыяй КПЗБ. Літаратурная ды іншая спадчына Вашага мужа мае дачыненьне да адпаведных інстытутаў Акадэміі навук альбо Саюза Пісьменьнікаў. Ды яны, як бачна, ужо гэтым і заняліся. За што я таксама рады. Калі Танк Вам сказаў, што напішуць (ён сам альбо іншыя), то будзьце ўпэўнена, ён гэта зробіць.

Артыкул пра Браніслава Тарашкевіча ў №2 часопіса «Полымя» я чытаў. Мяркуецца яшчэ тое-сёе.

Вы просіце, каб я зайшоў да Шавуры па пытаньню, якое Вас цікавіць, аб кампэнсацыі стратаў за канфіскаваную маёмасьць мужа. Гэтага, на вялікі жаль, я зрабіць не магу. Я ў Менску не займаю (як Вам, магчыма, здаецца) такога становішча, каб мог хоць у малой ступені ўплываць на падобнага роду справы. Я толькі ведаю, што гэта (хадайніцтва аб кампэнсацыі стратаў) трэба рабіць праз КГБ, прадставіўшы даведкі сьведкаў, якія пацьвярджаюць наяўнасьць канфіскаванай маёмасьці.

За адрас Веры Андрэеўны дзякую. Жадаю здароўя.

З павагай М.Арэхва.

Днямі я даў Ваш адрас супрацоўніку Менскага абласнога музэя ў Маладэчне. Ён зьбірае матэрыялы пра Вашага мужа.

* * *

Паважаная таварыш Уласава!

Пішу наўздагад, бо ні дакладнага Вашага адрасу, ні Вашага імя й імя па бацьку Вы ў Вашым лісьце мне не паведамілі.

А.М.Уласаў ня надта быў размаўлівы. На мяне ён зрабіў уражаньне чалавека перадавога, сумленнага грамадзкага дзяча ("общественника"), носьбіта культуры й народ. Помню яго адкрыты, вельмі сымпатычны твар зь вялізнымі пушыстымі вусамі. Я ставілася да яго зь вялікай сымпатыяй і павагай.

Я глыбока смуткую аб яго гібелі. Усё больш і больш паплечнікаў нашага юнацтва не далічваемся мы вакол. Ідзеш як па высечаным лесе, толькі як пні ў памяці прарасьлі іх карані, і час нават ня ў стане іх выкарчаваць.

Ня ведаю, ці знойдзе Вас мой ліст па такім няпэўным адрасе. Але не напісаць Вам я не магла, занадта паважаю я памяць А.М.Уласава.

Завуць мяне Канстанцыя Антонаўна. Жыву я ў Маскве. А пра лёс Вашага мужа я шмат чула. Вельмі шкада, што не дажыў ён да таго часу, калі можна было ўжо вярнуцца на любімую ім Беларусь.

Няхай будзе лёгкай яму зямля братняй Расіі.

З павагай — К.Буйло, 1961.

* * *

Глыбока паважаная Аляксандра Паўлаўна. Атрымаў ваш ліст. (Я ў цяперашні час знаходжуся ў вельмі цяжкім стане з боку здароўя. Я ляжу ў лякарні ўжо трэці месяц, лячуся ад некалькіх хваробаў. Мне вельмі цяжка займацца разумовай працай, але дзякуючы глыбокай павазе да Аляксандра Мікітавіча я пры дапамозе тав. па палаце Пятра Іосіфавіча Цімашэнкі (я інв. 1 гр. па зроку) дыктую свае ўспаміны.)

У вышэйшай ступені цяжкі час перажывала Беларусь у гады царскай улады. Усякае больш ці менш вольнае вусная ці друкаванае слова надта жорстка пераследавалася. Людзей, што выказвалі падобныя словы, без усякага суда саджалі ў турму.

Такім жорсткім перасьледам падвяргалася і першая Беларуская газэта «Наша доля», якая пачала выходзіць у сьвет у 1906 годзе. Названая газэта востра крытыкавала недахопы царскай улады й за гэта была закрытая на пятым нумары назаўсёды, а яе рэдактар Цукеркес быў пасаджаны ў турму.

На зьмену яму зьявіўся Аляксандар Мікітавіч Уласаў. Гэта быў чалавек выдатнага розуму, які ў дасканаласьці ведаў рэдактарскую справу ва ўмовах царскай улады. Акрамя таго ён валодаў выдатнымі дыпляматычнымі здольнасьцямі.

А.М.Уласаў вельмі разумна рэдагаваў газэту, размяшчаў у ёй артыкулы пра недахопы царскай улады, але ў такім схаваным выглядзе, што царскія чыноўнікі не маглі адкрыць усю праўду, што заключалася ў гэтых артыкулах.

Дзякуючы незвычайнаму розуму, выдатным дыпляматычным здольнасьцям і глыбокаму веданьню свае справы А.М. рэдагаваў газэту на працягу дзевяці гадоў да 1915 году, у якім Вільня была занятая немцамі ў часе 1-й сусьветнай вайны.

У першыя гады адказнае працы А.М.Уласава я жыў на Ўкраіне, пасылаў некаторыя матэрыялы ў газэту «Наша Ніва». У часе маёй вучобы ў Глухаўскім настаўніцкім інстытуце быў атрыманы ліст за подпісам рэдактара газэты «Наша Ніва» А.М.Уласава. А.М. у сваім лісьце заклікаў студэнтаў-беларусаў згаданага вышэй інстытута часьцей дасылаць розныя матэрыялы для апублікаваньня ў «Нашай Ніве» і ўсебакова вывучаць сваю радзіму. Пад уплывам гэтага ліста студэнты-беларусы арганізавалі Беларускі гурток па ўсебаковаму вывучэньню сваёй радзімы. Члены гуртка павінны былі зьбіраць матэрыялы, датычныя Беларусі. Гэтыя матэрыялы вывучаліся сыстэматычна на агульных сходах чляноў гуртка. У 1909 г. быў апублікаваны ў газэце «Наша Ніва» мой першы верш «На беразе Дзьвіны», які быў напісаны пад уплывам ліста А.М.Уласава.

(Больш падрабязныя ўспаміны я ня мог паведаміць з прычыны расстройства галаўнога мозгу).

Вельмі прашу, Аляксандра Паўлаўна, паведаміць пра тое, ці атрымалі вы мой ліст, ад якой ракавой памылкі памёр Аляксандар Мікітавіч і калі адбудзецца ўшанаваньне яго заслуг у сувязі з днём яго нараджэньня.

З прывітаньнем і павагай Я.Журба. Полацак.

# ЗАПАВЕТ

Эжэн Ёнэско

**Эжэн Ёнэско, што памёр у Парыжы 28 сакавіка, нарадзіўся ў 1912 годзе ў Румыніі. Зь дзяцінства жыў у Францыі. Эжэн Ёнэско, адзін з буйнейшых драматургаў XX стагодзьдзя, дэбютаваў п'есай «Лысая сьпявачка» (1950). Ягоныя «Крэслы» (1952), «Насарог» (1959), «Кароль паміраe» (1962) належаць да клясыкі тэатру абсурду. «Лысая сьпявачка» й «Лекцыя», пачынаючы з 1955 году, — стала ў рэпэртуары Theatre de la Huchette ў Парыжы і мусяць ставіцца да 2000 году. «Падарожжа да памерлых» (1980) было 33-й і апошняй п'есай Ёнэско, які ў канцы жыцьця вырашыў прысьвяціць сябе жывапісу.**

Адзінаццаць гадоў таму (1983) першая п'еса Ёнэско «Лысая сьпявачка» была пастаўленая ў Менску, у Беларускай Сьпеўна-Драматычнай Майстроўні. Перакладчык Зьміцер Колас граў у ёй адну з шасьці роляў.

БСДМ была на той час прыкметным асяродкам паўлегальнае беларушчыны. Зьнешні парадокс бачыцца ў тым, што нацыянальна настроеная моладзь, якая захаплялася Караткевічам і забароненай гістарычнай літаратурай, ладзіла ў Менску Каляды і ўступала ў канфлікты зь міліцыяй, езьдзіла ў этнаграфічныя вандроўкі, сьпявала фальклёрныя песьні й паказвала беларускую народную драму «Цар Максымілян», — што гэтая моладзь другой сваёй тэатральнай пастаноўкай абрала францускую п'есу абсурду. Але ўнутранага парадоксу ў гэткім выбары не было.

Загаварыўшы па-беларуску ў горадзе, яны не адмаўляліся ад сваіх ранейшых культурных набыткаў. Беларушчына ня мусіла быць стылізацыяй пад нешта састарэлае. Наадварот, трэба было свае звычайныя погляды й жаданьні злучыць зь ёю, спраўдзіць яе й прыдбаць.

Усё адбывалася спантанна, і два творчыя акты — нацыяналізм і ўнівэрсальная мастацкая схема — спалучыліся ў сымбіёз прагна жаданай свабоды. Гэтак Ёнэско адыграў пэўную ролю ў новым беларускім адраджанізме; стаў тым мастком, па якім палітызаваныя фальклярысты перанесьлі сваю прыдбаную беларушчыну з учора ў заўтра; паўплываў на фармаваньне *гэтае* генэрацыі адраджэнцаў.

Зразумела, была ў тым ініцыятыва перакладчыка, але была й нейкая вышняя лёгіка. Адбылося тое, што адбылося. І адзінае, пра што можна разважаць: якім чынам разьвівалася б сучасная нацыянальная думка, калі б тады, у 1983-м, замест «Лысай сьпявачкі» паставілі штосьці іншае, напрыклад, з Шэкспіра ці Дзюрэнмата... Пра тое, каб паставіць нешта з тутэйшага, гутарка ўжо не вялася.

Крыт.



Масаж не дапамагае. Цяпер мне баліць так, што ня надта магу й пісаць. Думкі не прыходзяць у галаву, калі боль нападае гэтак моцна. Пятая гадзіна, насоўваецца ноч, ненавісная ноч, якая аднак час ад часу прыносіць сон. Мае п'есы граюць паўсюль на сьвеце, і я думаю, што гледачы, бачачы іх, плачуць або сьмяюцца бяз моцных боляў. Я ведаю, што неўзабаве адыйду, кожны дзень для мяне — перамога.

Часам мяне наведваюць сябры. Адданыя сябры. Іх візыты прыносяць мне шмат прыемнасьці, а праз гадзіну мучаць. Што ж я зрабіў добрага? Мне здаецца, што я змарнаваў свой час, лапочучы на ветры. Ува мне зеўрае пустка, і я ўжо болей не магу, не з прычыны болю, а з прычыны экзыстэнцыйнай пусткі, што запаўняе сьвет, калі толькі можна сказаць, што сьвет поўны пусткі. Як заўсёды, я думаю, што памру, можа сёньня ўвечары, або — будзем спадзявацца — заўтра ці пасьлязаўтра. Або нават яшчэ пазьней. Я ня думаю пра найгоршае, толькі мучуся й мучуся. Часам я думаю, што я думаю, што я думаю, што я малюся. Хто ведае, ці там што будзе. Можа, пасьля наступіць радасьць. Якой формы Бог? Думаю, што Бог авальны...

У маёй гэтак званай кар'еры мне дапамагла вялізная колькасьць асобаў, якім я надзвычай удзячны.

Найперш мая маці, якая мяне выхавала, асоба незвычайнай мяккасьці й пачуцьця гумару, нягледзячы на сьмерць зусім маленькага дзіцяці і нягледзячы на тое, што так званы муж кінуў яе ў вялікім горадзе Парыжы. Але перадусім найбольшым ратункам сталася ў маім жыцьці жонка Родзіка й дачка Мары-Франс. Бязь іх я не зрабіў бы нічога й нічога б не напісаў. Ім я ўдзячны сваёй творчасьцю, ім я яе прысьвячаю. І яшчэ я мушу згадаць усіх маіх выкладчыкаў зь ліцэю ў Букурэшце.

Я шмат чым удзячны аднаму ашуканцу, што зваўся Керзам, які збанкрутаваў у дзень апошняга паказу «Насарога» ў Нью-Ёрку, на чым ён зарабіў 40 тысяч даляраў, але адначасна запэўніў мне славу ў Злучаных Штатах. Ён дапамог мне, сам таго ня хочучы. Пасьля зьявіліся францускія й ангельскія літаратурныя крытыкі. Былі таксама левыя крытыкі, якія выступалі супраць правых крытыкаў, бо яны думалі, што я левы, а правыя крытыкі думалі, што я правы. А пасьля зноў мая жонка, якая прымусіла мяне зрабіць магістратуру й дактарат. На карысьць мне пайшлі і далёкі другой жонкі майго бацькі — Лёлі, якая выкінула мяне за дзьверы бацькоўскага дому й прымусіла,

Фрагмэнты

# ПЕРАД СЬВІТАНЬНЕМ

Уладзімер Пазьнеўскі

Мая сям'я прыцягнула зь Вільні шмат цудоўных гісторыяў, якія пераказваліся з пакаленьня ў пакаленьне, як, прыкладам, апавяданьне пра сэйф, што стаяў у дзедавай канторы, ведамай з пачатку стагодзьдзя венскай фірмы «Franz Schulz und Sohn». У ім перахоўваліся ўмовы, нейкія вельмі рызыкоўныя сямейныя паперы, пакеты акцыяў, набытых выпадкова падчас вялікага падзеньня цэнаў, якія чакалі дня павышэньня, тры карціны Хелмонскага, крыху каштоўнейшай біжутэрыі, важнейшыя рахункі й пакватаваньні, вэксалі, даўгавыя скрыпты, чэкавыя кніжкі й бэльгійскі рэвальвэр. Стары сэйф, замыканы на некалькі падвойных замкоў, ізаляваны асбэстам на выпадак пажару, меў таксама пажоўклую кніжку з кодамі. Праз пэўны час, паводле пададзенага ключа, можна было мяняць парадак лічбаў, набор якіх адчыняў дзьверы сэзаму дваццацісантымэтровае таўшчыні. Шыфар мяняўся раз на месяц і дадаткова ў дзень імянінаў уладальніка, бо такі быў стары гандлярскі звычай. Калі ты не хацеў, каб цябе абрабавалі й каб пасьля паліцыя з сабакамі вяла дробязнае сьледзтва: што? хто? дзе? калі? або ня марыў пра тое, каб трапіць у конкурс, дык у дзень сваіх імянінаў ты мусіў мяняць шыфар. Пра гэта ведаў кожны гандляр, земляўласьнік, прамысловец або банкір. Ніхто не хацеў дражніць бяду, там ўсе пільна трымаліся гэтага прынцыпу.

Старыя сэйфы мелі сваю гісторыю. Дзед сьцьвярджаў, што кожны сэйф мае душу і, можна сказаць, асабістасьць. Часам на іх нападалі злыя гуморы, і нягледзячы на набор слушнага коду замкі зласьліва трымаліся й адпускалі толькі тады, калі гаспадар у роспачы ападаў на фатэль.

— Сэйф, — казаў дзед, — гэта ні ў якім разе ня куча жалезьзя зь цьвёрдай, пераважна вальфрамавай сталі, забясьпечаная складаным замком. У Земскім Крэдытным Банку перад першай сусьветнай вайной быў вялікі сэйф бэрлінскай работы. Аднойчы пасьля заканчэньня выплатаў яго зачынілі на ўсе замкі, запячаталі, і якое ж было зьдзіўленьне, калі раніцай дзьверы скарбніцы знайшлі расчыненымі наросьцеж. Пячаткі былі сарваныя, хоць службоўцы ня здолелі знайсьці сьлядоў уламаньня, бо ўламаньня не было. Мэханізм павярнуўся сам. Хто ведае, можа пад уплывам нейкіх нячыстых сілаў. Кінуліся, каб праверыць зьмесьціва, але дэпазыты былі некранутыя, і дырэктар, абціраючы халодны пот з лоба, з палёгкаю ўпаў на крэсла й запаліў цыгару. Ніколі так і не ўдалося высьветліць, чаму адчыніўся сэйф.

У маладосьці, калі мой дзед адбываў гандлёвую практыку ў банку, разыгралася трагедыя, ахвярaю якое стаўся шанаваны ў горадзе дырэктар Сэкудэвіч і маладая рахункаводка, якая мела з начальнікам сакрэтны раман. Аднойчы ўвечары пасьля закрыцьця банку пара каханкаў, шукаючы зацішнае месцайка, замкнулася ў сэйфе наяўных грошай. Злы лёс склаўся так, што, як пасьля сьцьвердзіў судовы лекар, дырэктар Сэкудэвіч меў сардэчны прыступ і памёр ад інфаркту. А як толькі ён ведаў шыфар, які адчыняў замок, дык дзяўчына не магла адтуль выбрацца й задахнулася ад недахопу кіслароду. Раніцай касір пабачыў у сэйфе два мёртвыя целы й з крыкам «Ратуйце!» пабег ашалеўшы па калідоры. Ад тае пары работнікі банку, якія затрымваліся пасьля сканчэньня працы, каб дакончыць пільныя апэрацыі, апавядалі, што позна ўночы з сэйфа чуюцца нейкія падазроныя гукі.

Сэйф, які служыў нашай сям'і ўжо колькі дзесяцігодзьдзяў, таксама меў незвычайныя ўласьцівасьці. Ён удзельнічаў у кожнай важнай фінансавай апэрацыі. Калі дзед зьбіраўся заладзіць нейкую важную справу, перш чым падпісаць чэк або ўмову ён замыкаўся ў пакойчыку каля свайго кабінэту, каб параіцца з старым сэйфам, ці яго рашэньне слушнае, ці, наадварот, ён мусіць як найхутчэй выйсьці з гульні, бо прыбытковая на выгляд справа можа прынесьці страты.

Каб даведацца, што думае сэйф, дастаткова было набраць першую лічбу. Калі мэханізм круціўся лёгка, не ўпіраючыся, гэта значыла, што яго чакаў посьпех. Калі ж круціўся цяжка, гэта было папярэджаньне, што трансакцыя пахне крахам. Тады ён вяртаўся ў кабінэт і, выбачаючыся, разводзіў рукамі, што на жаль, не цяпер, бо ён памыліўся ў сваіх магчымасьцях, дык можа іншым разам. Мэханізм старога сэйфа стаўся дараднікам у фінансавых апэрацыях і ўвогуле рэдка памыляўся. Дзед ніколькі ў гэтым не сумняваўся.

Гэтаму венскаму сэйфу ў верасьні 1939 году выпала адыграць сваю апошнюю ролю. У дзень, калі на прадмесьцях зьявіліся нязграбныя танкі гэткага ж дзівоснага войска, жаўнераў якога ў сям'і называлі няпрошанымі гасьцямі, дзед пасьпешна апаражніў зьмесьціва сэйфа. Біжутэрыю закапалі ў агародзе. Менш важныя паперы былі зашытыя пад падкладку паліта, іншыя сталіся ахвярaю агню. Разабраўшыся зь небясьпечным у часе вайны зьмесьцівам, стары, якому не бракавала пачуцьця гумару, прадбачачы, што сэйф абудзіць зразумелае жаданьне прыбыльцаў, наставіў мэханізм на найцяжэйшы код, кінуў у сярэдзіну напісанае на паперцы нецэнзурнае расейскае слова і пасьля гэтага бразнуў замком. Кніжку з кодамі скінуў зь Зялёнага Мосту ў Вяльлю. Некалькі тыдняў ён хаваўся ў бацькоў свайго работніка ў Белай Вацы. Час ад часу наведваючыся ў горад, ён даведваўся, ці прыбыльцам удалося адчыніць сэйф, ці салідны венскі мэханізм надалей ім супраціўляецца, і высьветлілася, што стары сэйф сапраўды мае свой характар, бо бараніўся некалькі дзён, хоць спрабавалі ўжо й пілаваць, і сьвідраваць. І толькі на шосты дзень ён, няшчасны, мусіў капітуляваць перад параю пачкаў дынаміту. Нарэшце ўдалося перамагчы гэтую стаячую салідарнасьць. Але людзі, якія пасьля столькіх намаганьняў і пакутаў знайшлі ўнутры сэйфа паперку з расейскім словам «говно», так разьюшыліся, што, згадваючы матушку, ці не поўгадзіны валілі ў небараку хто з чаго толькі меў пад рукой, хоць кулі не маглі зрабіць яму нічога злога, а толькі жаласна вішчалі й скуголілі, бясьсільна адбіваючыся ад вальфрамавых сьценак, што маглі вытрываць не адно векапомнае здарэньне.

* * *

Перад першай сусьветнай вайною, заглядаючы ў Санкт-Пецярбург дзеля справы або залагоджаньня зацягнутых службовых пытаньняў, якія трэба было падпіхваць хабарам, мой дзед любіў пры нагодзе адпаліць царскім чыноўнікам які жарт. Аднойчы, крыху перабраўшы мерку ў шампане, ён пазычыў у знаёмага куртку ад мундзіра і, затрымваючы фурманкі на Неўскім праспэкце, кожнаму возьніку загадваў ехаць на падворак Міністэрства Ўнутраных Справаў.

— Толькі нікому ні му-му, понял? Справа дзяржаўнае вагі. Парушэньне таямніцаў даверанымі асобамі, — шаптаў ён фурману. — Ведаеш, браце: тішэ едеш, дальшэ будеш. Захаваеш таямніцу, палучыш срэбны рубель, а можа й пару капеек на чарку. Язык распусьціш, у тюрму трафіш або й на пасяленіе ў паўночных губэрнях. А ты, пэўна, добра ведаеш, бацюшка, што ў Сыбіры халаднавата. Вось табе грівеньнік на задатак і гані што духу на Васілеўскі Востраў пад Міністерство Внутренніх Дзел і чакай далейшых загадаў. Ну, гані!

каб радзіў сабе ў жыцьці сам. Добра зрабілі таксама й прафэсары ліцэю Сэн-Сава, што прагналі мяне прэч, і я мусіў рабіць матуру ў правінцыйнай школцы, жывучы ў сваёй сястры, якая апекавалася ліцэістамі, якім — наколькі ведаю — ня надта шэнціла ў жыцьці. Я быў бадзяка, я быў бяздомны, а цяпер у мяне цудоўная кватэра на Манмартры. Часам мне дапамагалі сваякі, часам цётка Сабіна або цётка Ангеля, настаўніцы, якія лічылі, што я геній. Падчас вайны 1940 году мне дапамагла маці маёй жонкі — Анка, якая з болем у сэрцы дазволіла зяцю й дачцы выехаць у Францыю. Яна памерла з надзеяю, што прыедзе ў Парыж. Дапамог мне й Бог, калі я не хацеў вяртацца да камуністаў і аднойчы пайшоў на рынак з кошыкам без граша за душою і знайшоў тры тысячы франкаў 1940 году. Вось так мне дапамог зьбег акалічнасьцяў. Можа, Бог дапамагаў мне ў жыцьці й ва ўсіх маіх працах так, што я гэтага не заўважыў. І ўрэшце дапамог мне дамаўласьнік з вуліцы Клёд-Тэрас, спадар Калямбэль, хай яго Бог беражэ, які ня выкінуў на брук уцекача, што не плаціў за кватэру, бо грошай мог спадзявацца хіба ад Бога.

І вось гэтак, пераходзячы з рук у рукі, я дабіўся гэтай вялізнай славы й дажыў разам з жонкай да васьмідзесяці гадоў, а нават і да васьмідзесяці аднаго з паловай, у страху перад сьмерцю, не ўсьведамляючы, што Бог нешта для мяне зрабіў. Аднак ён не скасаваў для мяне сьмерці, што я лічу недапушчальным. Нягледзячы на ўсе намаганьні, нягледзячы на дапамогу сьвятароў, мне так ніколі й не ўдалося трапіць у абдымкі да Бога. Мне не ўдалося дастаткова паверыць. Я, на жаль, нібы той чалавек, чыя кожная ранішная малітва пачыналася словамі: «Божа, зрабі так, каб я ў Цябе паверыў».

Я ня ведаю, бо ніхто таго ня ведае, ці з таго боку нешта ёсьць, ці няма нічога. Я мог бы пагадзіцца з папам Янам Паўлам II, што цяпер адбываецца вялікая касьмічная вайна паміж сіламі зла й дабра. Натуральна ж я веру ў канчатковую перамогу сілаў дабра, але як і калі яна наступіць? Ці мы часьцінкі цэлага, ці мы істоты, якія адродзяцца? Найбольш непакоіць мяне думка аб расстаньні з жонкаю й дачкою. І аб расстаньні з самім сабою! Я спадзяюся на захаваньне працягу самога сябе, працягу часовага й надчасовага, у часе і ў бясчасьсі.

Мы зьяўляемся на зямлі не на тое, каб жыць. Мы зьяўляемся, каб нікнуць і паміраць. Мы перажываем пару дзяцінства, хутка сталеем і пачынаем старэць, і цяжка ўявіць сабе сьвет бяз Бога, аднак значна лягчэй уявіць сабе сьвет з Богам.

Кажуць, што сучасная мэдыцына й геранталёгія імкнуцца ўсялякімі спосабамі захаваць спраўнасьць чалавека насуперак ягонаму прызначэньню, насуперак старэньню й распаду. Раскрыць чалавека ў ягонай поўнасьці, у несьмяротнасьці, чаго Бог ня здолеў або не захацеў зрабіць. Чаго Бог не зрабіў.

Раней, прачынаючыся кожнай раніцы, я казаў: «Дзякуй Богу, што ён даў мне яшчэ адзін дзень жыцьця». Цяпер я кажу: «Бог забраў у мяне яшчэ адзін дзень». Што Бог зрабіў зь дзецьмі й статкам, якія забраў у Ёва?

Нягледзячы ні на што, я веру ў Бога, бо я веру ў зло. Калі йснуе зло, значыць ёсьць і Бог.

*«Le Figaro», 29 сакавіка 1994*

# ЗАЛАТАЯ МАНЭТА

*Размова з Славамірам Мрожкам на ранчо Ля Эпіфанія ў Мэксыцы*

**— Ці ведалі Вы Ёнэско?**

— Я спаткаў яго некалі, але ня стаў ягоным знаёмцам. Толькі маю да сёньня ягоны адрас і тэлефон. З кожным разам у маім нататніку ўсё больш закрэсьленьняў.

**— Калі Вы першы раз убачылі ягонае мастацтва? У 1956 годзе, калі яго пачалі граць у Польшчы?**

— У 1957 годзе я быў першы раз у Парыжы, ужо пасьля напісаньня маёй першай рэчы, і бадай тады бачыў ягоную «Лысую сьпявачку», якая там няспынна йдзе ў адным маленькім тэатры.

**— Якое было ўражаньне?**

— Сьпярша трэба сказаць, адкуль я ўзяўся: адтуль, адкуль і ўсе мы ў той час, з глыбокай дзіры. Тое, што выдумаў Ёнэско, ці таксама тое, што яго выдумала, для Захаду было арганічнае, нармальнае. Для нас тады ўсё, што прыходзіла, было бліскучае, бо мы былі згаладнелыя й прагныя да ўсяго. Мы ўсё прымалі за найлепшую манэту й сапраўды гэта была вельмі добрая манэта. Але хачу падкрэсьліць, што нам, таму пакаленьню з чорнай дзіры, усё тое, што не было прапанаванае сацрэалізмам, здавалася нязвыкла цікавым, таямнічым. Я ня надта ведаў, на чым гэта грунтуецца, але гэта мяне вельмі інтрыгавала.

**— Што Вы падумалі, калі з Вас зрабілі крэўнага Ёнэско?**

— Ведаеце, я ніколі ня быў літаратарам, заўсёды быў пісьменьнікам. Літаратар — гэта нехта, хто з'арыентаваны ў плынях, мне ж вялікую радасьць прыносіла пісаньне твораў. Пісаў, як мог. Вядома, вельмі хацеў тады быць такім, як Ёнэско, бо ён быў найслаўнейшы й найлепшы.

Кампаратывістыка стала маніяй: усё параўноўваць з усім, «хто чый і чым». Напэўна ўсе кагосьці чымсьці й ад кагосьці, толькі што з гэтага вынікае? Відавочна ўсе церпяць ад усіх. Але Ёнэско ад мяне не, мабыць таму, што не чытаў шмат маіх твораў.

Асноўная розьніца паміж так званай польскай школай абсурду і арыгіналам заключаецца ў тым, што яны былі нечувана змучаныя жыцьцём, бледныя й сумныя, таму што жыцьцё — нонсэнс. А мы былі згаладнелыя на жыцьцё. Для нас жыцьцё не было абсурднае, абсурднай была сыстэма. Таму мы пісалі абсурдныя кавалкі, цэнзура іх не прапускала, бо гэта было нібыта «пра жыцьцё».

**— Можа цяпер гэта й ня вельмі дарэчы, але драмы Ёнэско здаюцца крыху зьвятрэлымі. Сьвет, дзе дзейнічаюць толькі абсурдныя законы, нуднаваты. Хоць можа раней, калі, напрыклад, перамена ў насарозе была ў тэатры нечым новым, гэта не зануджала.**

— «Насарог» — гэта твор, заснаваны на адной задуме. Пасьля першага насарога, пасьля першай перамены Вы ўжо ведаеце, што наступны таксама зьменіцца й гэтак далей. Гэта добра на пяць хвілінаў, але не на тры гадзіны...

Мы ўсе любім гульні й забавы, але як можна гуляць, калі няма правілаў? У сьвеце зьмяняюцца тыя ці іншыя правілы, але некаторыя застаюцца. Напрыклад, тое правіла, што калі я сяду на распаленую бляху, то апякуся.

Абсурд у чыстым выглядзе ня вельмі выносны. Але як складнік, як тэхнічны прыём, ён будзе жывучы заўсёды.

Пасьля сьмерці Фэліні мне было вельмі шкада, што ён ня зробіць наступнага фільму, а Ёнэско... Напэўна ён быў выдатны. Але, мой Бог, урэшце гэта нармальна, што людзі паміраюць. Я таксама некалі гэта зраблю.

*«Gazeta Wyborcza», 31 сакавіка 1994*

За кароткі час ён назьбіраў пад міністэрствам восемдзесят фурманак, спрычыняючы неапісальны тлум і балаган ды занепакоенасьць уладаў, якія развавалі як любая ўлада: хто выклікаў тыя фурманкі і нашто? якія намеры магла мець асоба, якая ўчыніла вышэйпамянёнае, а можа гэта нейкі, господі помілуй, заговор або, ня дай Божа, мятеж супраць няйвышэйшай улады? Не застаецца нічога, як толькі жандарамі абкружыць і разагнаць гэтае талатайства, ужываючы ўсе даступныя сродкі. Як задумана, гэтак і зроблена. Найперш фурманаў заклікалі разьехацца, але ніводзін не паслухаўся, бо ці ж той службовец, які іх наняў, не папярэджваў, што гэта сакрэтная місія? Даў па грывеньніку ды меўся даць яшчэ па рублю за тое, каб трошкі пачакалі. Кожнаму таго рубля было страшна шкада, то ж на крыкі прэч, каб за хвіліну вас тут не было, а не дык, стаіць сабе гэтак і адзін і другі, каню торбу з аброкам папраўляе і сьнег на месцы топча, бо мароз моцны, прытопвае й думае: Крычы сабе, крычы. Не такі я дурань, каб адмовіцца ад заробку й страціць рубель. То ўжо ж не. Хай іншыя сабе едуць, калі ласка, а я яшчэ трохі пачакаю. Паветра сьвежае, адно здароўе. Афіцыйнае даручэньне было? Было. Асоба, што яго дала, была апранутая ў мундзір? Ясна, што ў мундзір. Зашпілены на залатыя гузікі зь дзяржаўнай птушкай, дык аб чым тут яшчэ гаварыць? Гэткія гамонкі вяліся пару гадзін, і ўлада, бачачы, што ўжо не да жартаў, паклікала сотню казакаў, і тыя прыскакалі ў тры мігі й сьвісь бізунамі па фурманах і конскіх хрыбтах. Адразу ўзьняўся вэрхал і гвалт. Праз колькі хвілінаў усё было скончана і ўлады прыступілі да складаньня рапарту. Назаўтра газэты, апісваючы здарэньне, выказвалі меркаваньне, што завадатарам, які давёў да зламыснага парушэньня грамадзкага парадку, пасылаючы каля трыццаці фурманак пад міністэрства, быў напэўна нейкі п'яны фін або «надменны» паляк. Іншыя газэты таксама безь вялікіх цяжкасьцяў вызначалі злачынцу, з той толькі розьніцай, што замест «надменнага» ў іх быў «горды» палячышка. Самі бачыце, праваслаўныя людзі, які гэта некультурны народ, какоя безабразія, какоя безабразія!

* * *

З Тадкам Альшэўскім, якога ўсе называлі Тадзя, мяне злучала пэўная таямніца. У тыя часы, калі ў нас пад носам пачаў прабівацца цёмны пух і калі пагрубелі нашыя галасы, мы разам паглыбляліся ў складаныя справы плоці. Лекарскі кабінэт ягонага бацькі быў побач з пакоем майго сябра, іх разьдзялялі вялізныя белыя дзьверы, што было шчасьлівым зьбегам акалічнасьцяў. Бо дастаткова было толькі прыкласьці вока да дзіркі ад ключа, каб пабачыць, што дзеецца ў кабінэце й пачуць кожнае вымаўленае там слова.

Гінэкалягічны фатэль з павернутымі ў наш бок парэнчамі ўзвышаўся пасярэдзіне пакою якраз насупраць дзьвярэй. Гэта было дзіўнае крэсла-някрэсла. У маім уяўленьні яно асацыявалася з гімнастычнай прыладай. Ззаду стаяла шырма, дзе распраналіся пацыенткі. Адрабляючы заданьні з матэматыкі або грызучы фізыку, Тадзя рабіў перапынкі й тады меў някепскія відовішчы. Перш чым ён дапусьціў мяне да таямніцы, ён мусіў доўгі час займацца падгляданьнем, бо, удаючы абыякавасьць бывалага чалавека, ён хацеў даведацца, якое ўражаньне зробіць на мяне першы сэанс. Штохвіліны ён падыходзіў да дзьвярэй, каб не прапусьціць адпаведнага моманту.

— Ну, зараз, — сказаў ён. — Яшчэ пакуль распранаецца. Сам пабачыш, нічога сабе.

— А ты? — спытаўся я.

— Для мяне гэта не навіна. Глядзі, колькі захочаш.

Я прыклаўся вокам. Кабінэт быў як на далоні, дзякуючы моцнаму сьвятлу пры столі, падобнаму да пражэктараў або ртутных лямпаў у апэрацыйнай залі, якое падала згары на фатэль. Яно высьвечвала яго, як актора, які грае галоўную ролю на сцэне, хоць спэктакль яшчэ не пачаўся.

— Ці пані гатовая? — пачуўся голас доктара, занятага раскладаньнем паперак у картатэцы.

— Так.

— Прашу заняць месца.

І ўявіце сабе маю міну. Хто б вы думалі выходзіць з-за шырмы? Наша настаўніца маляваньня. Падыходзіць да фатэля, высока падбірае кашульку. Дакладна відны круглясьці й цёмны трохкутнік паміж зграбнымі сьцёгнамі, і кладзецца ў акрабатычнай позе. Сагнутыя ў каленях ногі спачываюць на адмысловых парэнчах. Яна голая й раскрытая. Падыходзіць доктар. Рукі ў ялавых пальчатках. Змочвае іх вадою. Нахіляецца. Асьцярожна, павольна ўводзіць усярэдзіну ўказальны палец і мезенец. Звонку застаецца адстаўлены ўгору вялікі й падагнутыя астатнія пальцы. тым часам другая рука энэргічна цісьне на жывот, над самым лонным узлобкам. Пасьля рукі мяняюцца. Жанчына прыжмурыла вочы. Я адрываю галаву ад дзьвярэй. На лобе й шчацэ ў мяне адціснуўся ўвесь замок.

— Ну што? — пытаецца Тадзя. — Ты першы раз так зблізка?

— Ды не, — адказваю я, спрабуючы строіць дурня.

— Прыгожая.

— Хто? — пытаюся я.

— Мастачка. У яе непрыемнасьці. Ня можа мець дзяцей. Раз на два месяцы прыходзіць на агляд. Я шмат разоў яе бачыў.

У такіх размовах Тадзя ніколі не апускаўся да вульгарнасьці. Я разумеў, што мы з Тадзем пакрыёма зрываем забароненыя плады. Я адчуваў нейкую палёгку, што нарэшце ўжо гэта прайшоў, але кожны раз, калі я сустракаў пасьля на калідоры нашу прыгожую мастачку, мяне агортвала пачуцьцё віны. Мой позірк упінаўся ў дол, што яна адразу заўважыла:

— Ты ніколі не глядзіш мне ў вочы, калі гаворыш са мною. Чаму?

* * *

Падчас акупацыі, калі немцы пачалі замыкаць людзей у віленскім гета, Падольскі, гандлёвы агент майго дзеда, не без дапамогі маёй сям'і перавёў у грошы ўсё што мог з свайго майна і ўцёк на правінцыю. Ён хаваўся ў лесьнічоўцы ў ваколіцах Маладэчна, у лясьнічага, які быў дзедавым знаёмым, але нейкія літвінюкі яго вынюхалі й данесьлі куды трэба. Ён здолеў зьнікнуць, перш чым прыехала жандармэрыя. Вільню ён абмінаў, як Садом, бо там яго занадта добра ведалі. Нарэшце ён апынуўся ў Лодзі, дзе даў заткнуць сябе ў гета, але й адтуль праз год вырваўся й пераседзеў у нейкай удавы ў Кракаве, якая, здаецца, мела на Падольскага ахвоту, але да вясельля не дайшло. Пад канец саракавых гадоў ён наважыўся выехаць да сваякоў, што жылі ў Нью-Ёрку, але праз пару месяцаў вярнуўся з Амэрыкі сумны й прыгнечаны. На дзедава пытаньне, што сталася, ён распавёў, як яго нью-ёрскія сваякі ўчынілі над ім сапраўдны сямейны суд, якім кіравала найстарэйшая ў сям'і цётка Хана. Яна распытала Падольскага, што сталася з асобнымі членамі разгалінаванай сям'і:

*Працяг на старонцы 14*

# РАЗВАГІ КАЛЯ БІНЗЭЙСКІХ ТАПОЛЯЎ

Мэва Марон

Калі бываеш у Оксфардзе дастаткова часта, каб пакінуць на пару гадзінаў Кнігарню й Бібліятэку, найхутчэйшы выхад за горад — якраз з другога боку чыгуначнай станцыі: уздоўж каналу, спачатку паміж садамі й гародчыкамі з мальвамі перад плотам, пасьля празь вербалозы й поле з канямі й каровамі за весьлярамі на трэніроўцы — пакуль не павернеш, прайшоўшы праз парк, на вёску, і далей, завярнуўшы за рог, выйдзеш па каштанавых прысадах да Бінзэйскай царквы зь сьвятым калодзежам у кутку цьвінтара. Джэралд Мэнлі Хопкінс напісаў элегію да таполяў, калі ён быў тут сьвятаром у Сьв. Алойзіі, за малельным домам квакераў, у Дублін ён перабраўся толькі пад канец жыцьця...

Крыху далей ад гораду ляжыць вёска, якая была сядзібаю выдавецтва Dolphin Press, што спэцыялізавалася на перакладах каталёнскай паэзіі. Адзін зь перакладчыкаў — паэт, які піша па-ірляндзку, яго імя Пірс Хатчынсан, ён быў у Барсэлёне тады, калі мова яшчэ была публічна забароненая. Ён пераклаў (на ангельскую, у 1962) Жосэпа Карнэра, якога ён прадстаўляе як «стрыманага, іранічнага, сьціплага» «у вельмі бледных пальчатках і канарэйкавых чаравіках». Карнэр «вызваліў каталёншчыну ад сувэнірнай фальклёрнасьці» і ў «Востраве», дзе «яго мэтафізычная хітрасьць асабліва вострая» «ён зьвяртаецца да сваёй ідэальнай Каталёніі (як Ірляндыі, у *магчымасьць* якой верыў Патрык Пірс) з амаль насьмешлівымі словамі праніклівай шчырасьці і найглыбейшай патрэбы».

Канец прадмовы. Пару гадоў таму я купіла часапіс з назвай Krino ў апошняй вялікай букіністычнай кнігарні перад станцыяй, у такой кнігарні, дзе звычайна цэлыя паліцы застаўлены кнігамі па-чэску або па-каталёнску, рэцэнзійныя асобнікі з дэдыкацыямі Пітэру Лівай або Айрыс Мэрдак (калі пашчасьціць, можна знайсьці й «Мініятуры» Сакрата Яновіча ў перакладзе Шырын Акінэр!). Я купіла яго, таму што ён спадабаўся мне з выгляду, ён быў танны, ён быў зь Ірляндыі, з самага Захаду, зь дзіўным адрасам «Glenrevagh, Corrandula, Co. Galway» — і таму што побач з дваццацьма старонкамі Лэса Мары ў ім было з тузін кароткіх ірляндзкіх вершыкаў з ангельскімі перакладамі.

Я ведала, што ёсьць людзі, якія пішуць вершы па-ірляндзку. Падчас майго студэнцтва ў Бэлфасьце часам можна было сустрэць адзін часапіс з Поўдня з сымбалічным ірляндзкім вершыкам (а разам звычайна згадваўся Сьв. Калумба, чалавек з Дэры, ігнараваны ў паўночнай адукацыйнай сыстэме, бо ён пераплыў на Іёну каб вызваліць ад паганства *брытанцаў*, тым часам як Сьв. Патрык, які прыйшоў раней каб ахрысьціць *нас*, ірляндцаў, быў у парадку), праўда, на жаль, студэнты, зь якімі я сустракалася на Поўдні, адкідалі ірляндзкую мову як нудную, бо абавязковую для вывучаньня.

Аднойчы я нават крыху вывучыла валійскую мову, бо яна была значна лягчэйшая й неабавязковая, адкрыла для сябе Сандэрса Люіса, Гўэналта, Юраса Боўэна. Маіх ведаў хапіла, каб пачуць, што людзі сапраўды гавораць на мове ў Паўночнай Валіі, хоць усё, што можна было *пабачыць* навокал, было па-ангельску. У Ірляндыі ўсё было й ёсьць дагэтуль якраз наадварот; а ў Валіі сёньня можна ўжо болей і *пабачыць*... Яшчэ праз дваццаць гадоў я сустрэла ў цягніку Гэбрыэла Роўзэнстока — але давялося яшчэ крыху пачакаць, перш чым я зразумела, што ірляндзкая — больш паважная літаратурная мова, чым эспэранта.

Я ведала, што Флан О'Браен неяк напісаў раман на сучаснай (?) ірляндзкай мове (я бачыла яго ў вугорскім перакладзе!) — аднак я думала, што ён толькі насьміхаецца з усяго гэтага (так яно й ёсьць — аднак ірляндзкія жарты могуць быць вельмі сур'ёзныя!), падобна як ягоныя ірляндзкападобныя зацемкі ў Irish Times паўстагодзьдзя таму часьцей за ўсё былі напісаныя па-ангельску ў ірляндзкай вопратцы — каб выглядала нібы па-ірляндзку.

Я ведала, што быў нейкі чалавек з вострава, якога звалі Томас О Крохан (ці Criomhthainn), які напісаў нейкую кнігу, памятаю маленькую марку колеру засохлай крыві з чалавекам у шыракаполым капелюшы ў пяцідзесятыя гады (два пэнсы, барвовая, 1957, паводле каталёгу: старыя пэнсы — колькі тысяч працэнтаў інфляцыі?) — але мне ён чамусьці здаўся родам з васемнаццатага стагодзьдзя, а не з дваццатых гадоў нашага.

Васемнаццатае стагодзьдзе між іншым не было вялікай памылкай, калі ўзяць «Суд апоўначы» Мэрымана або «Плач па Арту О'Ліры» Іўлін Ду О Кональ (цёткі Дэніэла О'Конэла), які Пітэр Лівай (дзіўна?) нядаўна назваў найвялікшай паэмай васемнаццатага стагодзьдзя, апошнім сполахам няспыннае традыцыі; а я, што да гэтага стагодзьдзя, усё яшчэ не магла выбрацца з школьнае каляіны: мы чыталі Гоўлдсміта, аднак ён здаваўся менш ірляндзкім, чым Поўп (Аляксандар, зь Бінфілду ў Бэркшыры), чые рыфмы былі нам блізкія: у бэлфасцкім вымаўленьні яны былі жывыя, аднак ня ў оксфардзкай ангельшчыне!

На гэтым канчаецца споведзь маіх памылковых уяўленьняў (хоць, магчыма, далей сустрэнецца яшчэ некалькі!). Выйшла так, што на маё зьдзіўленьне некаторыя пераклады з Krino моцна мяне ўразілі. *«Схаваўшыся ў лужыне, сьнег чакае зламысна. / Я не заўважаю ціхую пастку, / правальваюся да косткі ў белую мокрасьць... Я памятаю той дзень, калі мой чаравік прабіў / цэлы авечы труп у іншай лужыне...»*

Або цэлы верш зь неадольным назовам *«Non serviam»*, Стывэнава «Ня буду служыць...» з «Партрэта мастака ў маладосьці»: «Я ня буду служыць таму, у што болей ня веру, усё роўна як гэта назваць — маім домам, маёй бацькаўшчынай або маёй царквой: я паспрабую выявіць сябе ў нейкім ладзе жыцьця або мастацтве як мага свабодней і як мага паўней, ужываючы для сваёй абароны адзіную зброю, якую я дазволю сабе ўжыць — маўчаньне, выгнаньне й хітрасьць». Гэта быў Джойс, а вось верш Грэгара О Дуля:

*«Белая аплатка занадта сухая / як пясок на маім языку, або соль. // Зялёнае лісьце занадта цяжкое / яно душыць мяне як дым у карчме. // Цёмныя шаты занадта пустыя / каханьне зьвялы лісток. // На крыжы тваё цела занадта зьнявечана: / школьны ранец — дастатковая ноша на маім сьветлым плячы».*

Аднак найбольшае ўражаньне на мяне зрабілі некалькі словаў з прадмовы, якая, называючы рэчы сваімі ймёнамі, сьвярджае, што для ірляндзкамоўных пісьменьнікаў «ужо больш не абавязкова насіць паўсюдна з сабою Маці-Ірляндыю», што мінуў ужо час дробязных рэцэнзіяў моваведаў, якім «не давалі спакою праблемы накшталт таго, ці зразумеў бы паэзію О Рырданя аднамоўны носьбіт ірляндзкай мовы». У выніку ўсяго ў галаве маёй асела (невядома чаму) прозьвішча О Рырдань.

Гэтак жа справядліва можна было б сказаць, што мінуў час аднамоўнага носьбіта ірляндзкай мовы. У шасьцідзясятыя гады я аднойчы на Вялікдзень спынялася ў Голўэі ў студэнцкім інтэрнаце, дзе ў шуфлядзе стала, дзе б пратэстанты з Поўначы паклалі Біблію, ляжала ірляндзкая граматыка. Тады я была зачараваная (ці мне гэтак падаецца цяпер) ідэяй мітычнага *Gaeltacht'у*, рэшты ірляндзкамоўнай Ірляндыі (рэшты ў біблійным сэнсе: «Можа Госпад Бог воінстваў будзе ласкавы да рэшты Язэпавай» (Амос 5.16), «Я канечне зьбяру рэшту Ізраіля; я пастаўлю іх разам як статак пасярод іх загону» (Міхей 2.12), рэшты, чыя вера дазволіць нацыі адрадзіцца — бачыце, што значыць пратэстанцкая адукацыя!): найперш на набярэжнай табе можа здацца, калі аб цябе разаб'юцца першыя хвалі гаворкі, што тутэйшыя рыбакі гавораць па-ірляндзку — пакуль да цябе ня дойдзе, што ірляндзкая ў іх толькі фанэтыка і што адзіныя словы, якія табе сапраўды трэба ведаць — гэта адпаведнікі М і Ж, істотная інфармацыя ў той дзень, калі ня можаш чакаць, каб паглядзець, хто адкуль выйдзе...

Але нават калі ўлічыць, што недзе (недзе ў іншым месцы) *Gaeltacht* усё ж існаваў, перада мною, паўночным квакерам, усё адно стаяў вялізны мур, які я не магла адолець. Для мяне паспрабаваць загаварыць на ірляндзкай мове ірляндзкамоўнай Ірляндыі было б нейкім *нахабствам*. А якраз гэткай ірляндзкай мове вучылі ў шасьцідзясятыя, мове будзённага жыцьця скалістага ўзьбярэжжа — гераічнага жыцьця, але ці гэта для мяне?

Пару словаў пра іншую сытуацыю, больш экстрэмальную — не магу падабраць лепшага слова. Адзін паэт, якога звалі Эд Дорн, пісаў пра індзейцаў-шашонаў у шасьцідзясятых гадох: «Дорн быў не гатовы прэтэндаваць на тое, каб жыць у самым сэрцы шашонскай культуры. Там, дзе назапашана безьліч колішніх несправядлівасьцяў, нават самы асьцярожны пробны крок можа падацца маральным злачынствам. Нават што да мовы, часам трэба уважліва стрымвацца... Ягоная тактоўнасьць патрабавала дыстанцыі... Ён ня мог прэтэндаваць на тое, што было да такой меры загублена й зьнішчана».

«Два чужынцы за стагодзьдзе, / магчыма, пранікаюць у сэрца нацыі», пісаў Пірс Хатчынсан (па-ангельску).

Памятаю, як у шасьцідзясятыя гады мне было няёмка ў кампаніі маёй далёкай ангельскай сваячкі, чый сын, геоляг, «абтубыліўся», ажаніўшыся зь дзяўчынай з Конэмары: яна напышліва сказала, што не ўяўляе сабе, як можна пераступіць праз парог, не сказаўшы «Хай Бог блаславіць усіх у гэтым доме»... Я зразумела яе, я аднойчы сама перажагналася (у праваслаўны бок) у цёмнай царкве — але гэта было нешта менш асабістае, а вось яна выглядала няпрошанай чужаніцай.

Але гэта было даўно. Больш блізкія ў часе падзеі могуць быць цікавыя самі па сабе. Ніколі раней ня чутае прозьвішча О Рырдань я запомніла не надарма. Я знайшла яго у дзьвюх кнігах у розных букіністычных кнігарнях на наступным тыдні. З кавалкамі перакладаў прозы. І мне спадабалася тое, што я пабачыла:

*«Яму чулася музыка ў гаворцы Дун Хыня, ня словы, а мэлёдыя, што ліецца праз мунстэрскія гукі й акцэнты, музыка, чутная чужынцу; музыка мясьцінаў, якую ня чуе той, хто гаворыць, музыка, якую я ніколі ня чуў, бо яна была так блізка ад мяне, яе значэньне трымала мяне ў сваіх абдымках. Музыка, якую ўсё яшчэ можна пачуць у Мунстэры, нават там, дзе дыялект ужо забыты».*

Другім паэтам у той самай кнізе быў Майкл Дэвіт (1950—), якога згадваў Роўзэнсток, імя гэта запомнілася мабыць таму, што ён быў ня першы Майкл Дэвіт у ірляндзкай гісторыі. У яго ёсьць элегія, прысьвечаная бацьку, зь якой відаць, што ірляндзкая мова прапусьціла як найменей адно пакаленьне ў ягонай сям'і. А другая прысьвечаная «Ліз Кэрні, з востраву Бласкет (—1974)»: *«... за скумбрыяй з бульбаю / падчас навінаў апоўдні / яна пыталася перакладу / бо ня ўсё разумела па-ангельску. // І я казаў: «Там на Поўначы Ірляндыі забіваюць адны адных»...»*

Выдавец О Рырданя ставіцца зь недаверам да перакладаў (відаць, на ангельскую мову), як там пішуць. Але ёсьць цэлы том Дэвіта з паралельнымі перакладамі. Тут мне робіцца крыху няёмка: добра, калі перад табою сама сабою сьцеліцца дарога, але тады адчуваеш сябе прыстасаванцам: нібы толькі й чакаў, пакуль яна ня будзе роўная й гладкая! Яшчэ адна прычына для няёмкасьці: я ледзь не паставіла кнігу назад на паліцу, пабачыўшы ў ёй цэлы верш пра Бобі Сэндза, тэрарыста, які распачаў галадоўку, калі ў яго ўжо не засталося іншае зброі — прынамсі мне гэтак здавалася гледзячы з Поўначы; усё ж, хочаш ня хочаш, а я з тых, на кім вісіць бірка «пратэстант». О, як я аднойчы спрачалася зь нейкай баўгаркай, якая лічыла яго героем!

Я ведала, што ён пачаў вучыць ірляндзкую мову ў турме Лонг Кэш, ці хутчэй аднаўляць у памяці тое, над чым нудзіўся ў школе. І ўсё роўна — ён абудзіў ува мне абаронччую ваяўнічасьць! *«Мы чакаем, / як людзі / што глядзяць угору на чалавека / які стаіць, напружыўшыся, / на падваконьні на пятым паверсе / і глядзіць долу на нас...»* Я радая, што нейкая сіла прымусіла мяне дачытаць верш да канца. Я ўздыхнула з палёгкай! Не супрацьстаўленьне мы/яны, а сапраўдны жаль, трагедыя. *«Мы чакаем, / нібы качкі ў мяккім пуху / што глядзяць на курэй у гразі / і на пыхлівага пеўня. // Вы ўпалі сёньня, упалі ў сьмяротны сон...»*

У Дэвіта ёсьць яшчэ верш пра чалавека, якога ён аднойчы падвёз, алкаголіка, які жыве з удавою ў адным з пабаў у Кэмдэн Таўне, у Паўночным Лёндане, і які прыехаў да сваякоў у *Gaeltach'це:* чалавек добра гаворыць па-ірляндзку, і выяўляецца, што ён з Корка, як і сам Дэвіт, што ён *«прайшоў тымі самымі дыялектнымі сьцежкамі: / Летні коледж у Балінгеры, / школа Хрысьціянскіх Братоў, / пабы на паўвостраве Дынгл...»* Каля 1970 году такая повязь зь неперарванай ірляндзкамоўнай традыцыяй, ня нейкія там паскробкі, была яшчэ (якраз) магчымая. Цяпер, як кажуць, мы пакінутыя на саміх сябе, мы мусім знайсьці іншую грамаду, якая б падтрымала ірляндзкамоўную літаратуру...

Мне ня хочацца гаварыць шмат пра О Рырданя (1917-1977): у ягоных вершах ёсьць тонкія аргумэнты, якія не паддаюцца цытаваньню, за выключэньнем выпадкаў, калі адзін загадкавы радок адсылае да ўсёй

# ПЕРАД СЬВІТАНЬНЕМ

Працяг са старонкі 13

— А цётка Рыфка зь Беластоку? — пыталася яна, сьвідруючы яго цёмнымі вачыма.

— Яе вывезьлі ў сорак трэцім.

— А муж цёткі Рыфкі, дантыст? — далей вяла сьледзтва старая.

— Памёр.

— А іх дачушка Эля?

— Таксама загінула.

Пасьля яна распытвала Падольскага пра віленскае, варшаўскае і львоўскае сваяцтва, і калі выявілася, што жывы застаўся толькі ён адзін, Герш Падольскі, цётка Хана напала на яго не на жарт:

— Гэта мне не падабаецца, Герш, — казала яна. — І маці твая памерла, і бацька, і сястра, і бабка. А ты едзеш за паўсьвета, Герш, каб нам сказаць адно слова: памерлі. Гэта не інфармацыя. Ты сораму ня маеш, Герш! Была вайна? Згода. Людзі гінулі? Згода. На вайне заўсёды гінуць людзі.

У гэты момант цётка Хана паглядзела на Падольскага позіркам поўным шкадобы:

— Дык ты мне зараз скажы, Герш, ці твае справы сапраўды йшлі так блага, што ты ня мог ім здабыць якога прыстойнага адваката?

* * *

Аднойчы ў лёс маёй сям'і ўставіў свае тры грошы Міцкевіч Адам, а дакладней *Пан Тадэвуш*, напісаны вышэйпамянёным Міцкевічам Адамам, бо падчас начнога ператрусу, або па-людзку кажучы: рэвізіі, пэўны малады суб'ект у скураной куртцы знайшоў на паліцы ў бібліятэцы даваеннае выданьне *Пана Тадэвуша*. Падчас гартаньня з згаданай кнігі выпаў на падлогу плян Сапліцова.

— Гэта што такое? — спыталіся паднімаючы ўклейку.

— Плян, — адказаў дзед.

— План, кажаце? Ну, ладна. А што на этым плане?

— Сапліцова.

— А што такое Сапліцова?

— Вёска, у якой адбываюцца падзеі ў кнізе.

— Ну, ладна.

— Можна лёгка праверыць, — пачаў тлумачыць дзед.

— Маўчаць, — перапынілі яго. — Ваша справа адказваць на пытаньні! Ясна? — Дык што вы бачыце на этым плане? — дзяўблі далей, падсоўваючы плян дзеду пад нос.

— Розныя знакі.

— Ну, ладна. А што азначаюць напрыклад гэтыя ёлкі?

— Хвойны лес.

— А прастакутнікі?

— Будынкі.

— Ну, ладна. Усе аб'екты як на далоні. А як называецца тая асоба, якая пазначае дакладнае разьмяшчэньне аб'ектаў? — спытаўся ён у свайго таварыша, які шнарыў між вопраткі ў шафе.

— Дазвольце далажыць, — сказаў той, стаўшы на зважай, — што шпіён.



# Даніэль (Cevrus dama)

*«Вось сымбаль твой, забыты краю родны!»*

Да прыезду зўрапейцаў у Новай Зэляндыі практычна не было сысуноў. Капітан Кук завёз у гэтыя краі сьвіней і козаў. Першых аленяў у Новую Зэляндыю прывезьлі ў 1851 г. Сёньня на выспах жыве больш за дзесяць відаў аленяў з розных краёў сьвету. Апроч высакароднага аленя (Cevrus elaphus), плямістага, белахвостага ды іншых, тут жывуць і ласі, і даніэлі. Найбольшая папуляцыя даніэляў склалася на Паўночнай выспе, куды іх завезьлі зь Гішпанскіх Пірэнэяў. Паводле дадзеных доктара К.Вазьдзіцкага, з 1932 да 1954 году ў Новай Зэляндыі было здабыта 2 млн. 400 тыс. розных аленяў(!), але гэта не паўплывала на іх колькасьць увогуле. Новазэляндзкія паляўнічыя забясьпечаны здабычаю, пра якую толькі мараць іх калегі на Беларусі.

А некалі даніэлі былі звычайнымі жыхарамі беларускіх лясоў. Пасьля далучэньня да Расеі, на прыканцы XVIII ст., яны былі цалкам вынішчаныя. Потым, дзеля царскага паляваньня, неаднаразова завозілі даніэляў у Белавескую пушчу. Тут перад пачаткам першай сусьветнай вайны іх налічвалася блізу 1,5 тыс. галоў.

Але па вайне іх зноў ня стала. Пры Польшчы, у 1932 г., зь Нямеччыны было завезена 8 асобін даніэляў у Налібоцкую пушчу. Тутака быў нават створаны адмыслова так званы Вялаўскі запаведнік, дзе ў мясьцінах свайго спрадвечнага йснаваньня даніэлі хутка разьвяліся.

Ізноў вайна. У Налібоцкіх лясох месьціўся Баранавіцкі падпольны абкам КП(б)Б і штаб Баранавіцкага партызанскага злучэньня. І даніэляў зноў ня стала.

Пры Саветах, у 1951 г. скасавалі й Вялаўскі запаведнік. Пра даніэляў у Налібоцкай пушчы цяпер не чуваць.

У 1963 г. у Белавескую пушчу завозілі гэтых жывёлаў з Польшчы. Але ўжо марна. Даніэляў не аднавілі. Між тым, ва ўсіх суседніх зь Беларусяй дзяржавах папуляцыі адноўленыя.

Чым жа адметная гэта жывёла? Па-першае, у адрозьненьне ад, скажам, ласёў, альбо высакародных аленяў, рогі носяць ня толькі самцы даніэляў, але й самкі. Рогі ў іх круглыя, складаюцца зь дзьвюх галінаў, якія пашыраюцца ўгору і ўтвараюць лапаткі (кшталтам як у ласёў), па краёх якіх вострыя парасткі, што загнутыя і ўперад, і назад.

А па-другое, гэта найпрыгажэйшая жывёла з нашых парнакапытных. Яе грацыя й пекнасьць былі папулярныя ў любоўнай лірыцы розных народаў.

Даніэлі крыху меншыя за іншых аленяў: маюць даўжыню 1,5-1,6 м, а вышыню ў карку каля 1 м. Поўсьць па сьпіне й па баках ружова-бурая з радамі бела-жоўтых плямаў, каля хваста й трыбуха — даўжэйшая й белая. Самкі з маладняком трымаюцца статкамі да 10 жывёлін. Натуральна, для такіх істотаў апроч густога мяшанага лесу патрэбныя й выганы, шырокія паляны, прасекі. Даніэлі скачуць, бегаюць і плаваюць.

На жаль, што такое «... як даніэль...» сёньня беларусам давodзіцца тлумачыць хіба што па кнігах.

S.H.

## *Фундатары «Нашай Нівы»:*

К.Л. зь Вялікабрытаніі — £50
Віталь Кажан з ЗША — $10
Янка Юхнавец з ЗША — $10
Кон Ворф з ЗША — $20
БЕЛЛІТКАМП зь Вільні — 1 млн. рублёў
Яніна Тарасевіч зь Менску — 20 Lt.

*Вялікі дзякуй!*

ЖАРТЫ

# Спорава й спораўцы

**На Беларусі толькі зьяўляюцца жанры свайго палітычнага ды нацыянальнага гумару, зьвязаныя зь ідэнтыфікацыяй народу ў сваёй краіне. Пройдзе яшчэ колькі часу, і ўсе гэтыя Пецькі, Васілі Іванавічы, чукчы, Вовачкі, Штырліцы ды іншыя героі савецкага часу стануць для нас у лепшым выпадку экзотамі, у горшым — мы перастанем разумець іхні гумар. Зразумела, што новыя беларускія жарты будуць перагукацца з колішняй народнай традыцыяй, са сьвецкай традыцыяй якога-небудзь «Пане Каханку». Паміж гэтымі традыцыямі й новым беларускім гумарам няма пустаты. Увесь савецкі час людзі знаходзілі як і з чаго сьмяяцца, ідэнтыфікуючыся не абавязкова ў межах СССР, але і ў межах сваёй вёскі. Напрыклад, жартаўнікі са Спорава ў Бярозаўскім раёне вядомыя ня менш, чым старадаросkія самагоншчыкі... І гэта ўжо свая сымболіка, свая геаграфія.**

* * *

Адзін споравец любіў гандляваць. Паедзе ў Ружаны, накупляе часныку й прадае ў Бярозе на капейку даражэй. Аднаго разу нарваў на рэчцы качынцу (белазор балотны) — жоўты такі — паехаў у Бярозу з маці, расклаў на прылаўку, абабег вакол, а пасьля падыходзіць да прылаўка й, як бы ня ведаючы маці, як чужы, кажа:

— Ой, дзякуй, цётачка, ой, лячы людзей! Чатыры разы памыўся, дык усё рабаціньне як рукой зьняло!

Пачулі пра тое пакупнікі, набеглі, найбольш дзяўчаты, канапатыя, рудыя, усякія. Умомант разьмялі качынец.

Памёр той споравец ад старасьці. Казалі пра яго, што байструк быў, ад яўрэйчыка, бо гандляваць любіў.

* * *

Споравец пытаецца ў спораўца:

— Іван, твая карова курыць?

— Не.

— То значыць хлеў у цябе гарыць.

* * *

Падчас вайны ўся вёска Спорава ў партызанах была. Бо пусьцілі пагалоску, што калі хто спаліць хату, таму ў Маскве кватэру дадуць. Вось чаму спораўцаў яшчэ й дагэтуль «масквічамі» завуць.

* * *

— Калі спораўцам трэба сякеру, ці яшчэ што павайстрыць, дык яны тачыла на горку нясуць, пускаюць, бягуць за ім і войстраць, што каму трэба, — распавядае споравец.

— У Споравe ж горкі няма! — зьдзіўляецца слухач.

— Бо вытапталі, бегаючы, — тлумачыць споравец.

* * *

Споравец хавае цешчу. За труною ідуць адныя мужчыны, усе на дыбачках. Сустрэчны пытаецца:

— А чаму нябожчыца на баку ляжыць?

— Ціха, а то прачнецца, — шэпча яму споравец.

* * *

Спораўца бяруць у войска. Пытаюцца:

— За мяжой быў?

— Быў. Цётка ў Тышковічах жыве.

— Нацыянальнасьць?

— Споравец.

— Якімі мовамі валодаеш?

— Рускай, беларускай і чыста спораўскай.

* * *

Споравец разважае:

— Хто ў лазьню ходзіць? Ды адныя гультаі!

— Чаму?

— Бо лянуюцца чухацца.

* * *

Прыехаў у Спорава цырк. Цыркавы мядзьведзь узяў ды ўцёк. Спораўцы яго забілі. Прыехаў сьледчы, сабраў людзей, кажа, што мядзьведзь кручаны (шалёны) быў, а таму чалавеку, які яго забіў, сто рублёў дадуць. Выходзіць наперад адзін споравец. Я кажа біў, кум, сват, зяць таксама білі. Падумаў трохі і далаў: «І брата таксама запішы!»

* * *

Пытаюцца ў спораўца:

— Дзе ты мыесься?

— У возеры.

— А зімой?

— А колькі тае зімы!

* * *

— Спораўцы саджаюць бульбу ноччу, — распавядае споравец.

— Чаму?

— А каб каларадзкі жук не знайшоў.

* * *

Споравец з вайны прыйшоў, мяшок ськінуў, ды не каб у хату бегчы, жонку абняць — у хлеў пайшоў паглядзець, ці конь дагледжаны.

* * *

У Споравe надзіва доўгія сьвіньні. А гадуюць іх спораўцы так. Убіваюць у хляве крукі, да іх вяроўкай прывязваюць за заднія ногі сьвіньню і штодня адсоўваюць ад сьвінога рыла карыта.

* * *

Прыехаў у Спорава з разанішчыны чалавек, ганарысты такі. А сам кумяк (тоўчаную бульбу) убачыў, дык думаў, што масла — на хлеб намазваў.

* * *

Адзін споравец такую маленькую жонку ўзяў, што ноччу граблямі шукаў.

* * *

Спораўка да спораўкі:

— Мой хлопец, мусіць, пісьменьнікам будзе.

— Чаму?

— А ўсё рубель на чарнілы просіць.

* * *

Спораўцы даўней з возера жылі, рыбу лавілі. Аднойчы, калі хата гарэла, сучачка зь яе выскачыла. На сучцы поўсьць гарыць, і бяжыць яна, шукаючы паратунку, да возера. Дык спораўцы хату кінулі тушыць, давай сучачку ад возера адганяць, баяліся, што падпаліць.

* * *

У Бярозе першы сьветлафор паставілі, а ён не працуе. Споравец кажа:

— Пакуль у Споравe не паставяць сьветлафора й тут не загарыцца!

* * *

Спораўцы дамагліся, каб са Спорава да самага Берасьця аўтобус хадзіў. Дамагчыся дамагліся, аднак здаралася, што й пусты аўтобус адыходзіў зь вёскі. Дык, каб не адмянялі маршруту, пачалі па чарзе ў горад езьдзіць: сёньня гэтыя тры хаты, заўтра — наступныя тры.

* * *

Споравец да спораўца:

— Куды ідзеш?

— Ды вось, ліст не дапісаў, пайду ў краму, чарніла куплю, то дапішу.

* * *

Споравец да спораўца:

— Ты чаго ў Вацэвічы едзеш?

— Ды вось муха ў вядро з вадой упала.

— Ну й што?

— Дык еду піва піць.

* * *

Ідзе споравец. Сустракае суседку зь цяжкім клункам. Узяўся быў дапамагчы несьці, ды ўспомніў:

— Не, Ганна, я ж у адпуску.

* * *

У спораўцаў бусел — сьвятая птушка. На сьвята вядзе споравец за крыло бусла ў царкву. А тут кладка цераз ручай. Дык бусел па кладцы ідзе, а споравец — па вадзе.

* * *

Спораўцы кажуць:

— Сена такога й пападзьдзя не ела!

— Чорт ленаваўся б, каб хацелася!

— Ён у мяне харошы мужык: ён, як скажу, за сто грамаў курам лапы памые.

* * *

Спораўка да спораўкі:

— Мой сын Карлам Марксам будзе.

— Чаму?

— Бо з барадой ходзіць.

— А мой — Ленінам.

— Чаму?

— А ўсё па турмах сядзіць!

Запісаў Алесь Зайка

*Бярозаўскі раён*

**НАША НІВА** №5(23) Беларуская газэта. Заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Рэдактар Сяргей Дубавец. Выдавец Павал Жук. Адрасы для допісаў: 2041 Вільня а/с 2082 і 220123, Менск а/с 71. Падпісны індэкс у Літве: 67233, на Беларусі: 63125. Рэдакцыя (Вільня, Жыгімонта 12/2): Алег Мінкін (адк. сакратар), Сяргей Шупа (літ. рэдактар), Сяргей Харэўскі (маст. рэдактар). Менскае бюро (Менск, Іванаўская 56): Алег Дзярновіч (загадчык), Ігар Бабкоў (дыскурс). Рэдакцыйная Рада: Уладзімер Арлоў, Сяргей Астраўцоў, Адам Глёбус, Лявон Луцкевіч, Генадзь Сагановіч. Аўсэтны друк. Фармат А3. Агульны наклад 20 тыс. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку» (220041 Менск, праспэкт Ф.Скарыны, 79) Замова 766

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12   М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12